# Каапэрацыя БССР

## Часопіс

Каапэрацыйных цэнтраў БССР, Белсельбанку і Ўсекабанку

Ліпень

№ 8

1929

Менск



## ЗЬМЕСТ:

*Стар.*


**Ал. Красоўскі**. Вынікі Ўсебеларускага зьезду прамкаапэрацыі . . . . . . . . 3

За палепшаньне працы (адозва Ўсесаюз. Кон. Кам.) . . . . . . . . . . . . . . 6

**К. К.** С.-Г. крэдытныя т-вы Беларусі, рыхтуйцеся да III-га Ўсесаюзнага конкурсу 8

**С. Кудзінаў**. Жанчына і калгасы БССР . . . . . . . . . . . . . . . . . . 10

Рэзалюцыя па справаздачы праўленьня Белжылсаюзу . . . . . . . . . . . 13

### Практыка нашае працы

**А. Плышэўскі**. Вынікі крэдытаваньня вясковай пасеўнай кампаніі гэтага году і падрыхтоўка да азімай. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 18

**Аўрамчык**. Стан сампрамкаапэрацыі ў Менскай і Аршанскай акругах. . . . . 25

### На месцах

**С. Фрэнкель**. Пра культбытавую працу МенЦРК. . . . . . . . . . . . . . 27

**А.—р**. Сны мазырскіх рахункаводаў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 28

**Макар Валацуга**. Па каапэрацыйных ухабах . . . . . . . . . . . . . . . 29

### Бібліографія

**А. Рыбакоў**. „Машынавыя т-вы . . Рэцэнзія . . . . . . . . . . . . . . 33

**Целищев**. Как две деревни стали колхозами . . Рэцэнзія . . . . . . . . . 33

„Эхо Тверской Кооперации“ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 33

### Афіцыйны аддзел

Пастанова Саўнаркому БССР аб захадах да забясьпечаньня разьвіцьця каапэрацыі інвалідаў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 34

Палажэньне аб стала дзейнічаючых курсах пры Белкаапсаюзе. . . . . . . . 36

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.

ДВУХТЫДНЁВЫ ОРГАН
КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
АЛ. КРАСОЎСКАГА, МАТУСЭВІЧА,
ТУМАСА, Г. ХАСКІНА і А. ФРЫДА

ПЕРШЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 8

ЛІПЕНЬ





МЕНСК — 1929

Ал Красоўскі

# Вынікі Ўсебеларускага зьезду прамысловае каапэрацыі

З 5 па 9 ліпеня гэтага году адбываўся 3-ці зьезд прамкаапэрацыі, на якім была падагулена праца за мінулыя 2 гады. 3-ці зьезд выразна адрозьніваўся ад папярэдніх зьездаў па тэй ўвазе, якая была ўдзелена 3-му зьезду з боку кіраўнічых партыйных арганізацый і ўрадавых устаноў. Прысутнічаньне на працягу ўсяго зьезду Намесьніка Старшыні СНК БССР і Старшыні ЭКАНА т. Каркліна і яго даклад аб народнай гаспадарцы БССР у сувязі з 5-гадовым плянам падмацоўваюць гэта.

Ня меншая ўвага да зьезду была ўдзелена і Ўсесаюзным саветам прамкаапэрацыі, які дэлегаваў для ўдзелу ў працах зьезду свайго старшыню т. Вэйка і яго намесьніка т. Ціхамірава.

Усяго на зьезьдзе прысутнічала 149 дэлегатаў ад 758 арцеляй з лікам 14664 каапэраваных сяброў і 93 крэдытна-прамысловыя т-вы з лікам 29144 сяброў. Па сацыяльнаму складу зьезд падзяляўся так: рабочых—61,9 проц., саматужнікаў—22,4 проц. і служачых—15,7 проц. а па нацыянальнасьці: яўрэяў—79,9 проц., беларусаў 15,6 проц., расейцаў—2,3 проц. і іншых 2,2 проц. Асабліва цалком на зьезьдзе была прадстаўлена нізавая сетка.

Настрой дэлегатаў быў дзелавы і прасякнуты сьвядомасьцю таго буйнага значэньня, якое набыла ў эканоміцы Беларусі прамысловая каапэрацыя.

Больш усяго было спрэчак па справаздачах праўленьня Белсампрамсаюзу, і дэлегаты зьезду асабліва крытычна падыходзілі да ацэнкі дзейнасьці і кіраўніцтва прамысловае каапэрацыі.

У меншай ступені падпала пад крытыку праца Ўсекаапрамсавету, даклад аб дзейнасьці якога зрабіў т. Вэйка. Гэта зьявішча тлумачыцца тым, што дэлегаты зьезду ўбачылі дадатную дзейнасьць Усекаапрамсавету, ня гледзячы на тое, што апошні быў зарганізаваны толькі ў канцы 1928 г. Шэраг урадавых мерапрыемстваў, вызначаўшых далейшую дзейнасьць і развіцьцё прамысловае каапэрацыі, былі зроблены па ініцыятыве Ўсекаапрамсавету. Усекаапрамсавет за кароткі тэрмін свайго існаваньня здолеў стаць у адным шэрагу з другімі ўсесаюзнымі каапэрацыйнымі цэнтрамі і сваёй дзейнасьцю заваяваў патрэбны аўтарытэт усяе сыстэмы прамкаапэрацыі. Бяда толькі вось у тым, што мы, практычныя працаўнікі сыстэмы, якія павінны былі ўвабраць у працы ўсе дырэктывы і мерапрыемствы Ўсекаапрамсавету, недастаткова энэргічна і хутка ўсе гэтыя дырэктывы ўспрымаем. Адгэтуль і недахопы ў працы і шэраг іншых памылак, якія нельга абмінуць і на якія дэлегаты зьезду ў дастатковай ступені зьвярнулі ўвагу праўленьня Белсампрамсаюзу.

Самым буйным недахопам у працы Белсампрамсаюзу (БСПС) зьезд адзначыў засьмечанасьць арцеляй чужым элемэнтам, адгэтуль і ўсе якасьці працы. Зьезд прапанаваў працягваць чыстку арцеляй ад чужых нам элемэнтаў і перабудаваць сваю працу выключна на клясавых рэйках, каб прамкаапэрацыя Беларусі, як і ўсякая іншая, была выканаўцаю волі працоўнае клясы, якая пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі вядзе да перамогі над капіталістычнымі элемэнтамі гораду, мястэчка і вёскі. Таму

ўся ўвага павінна быць зьвернута на працу сярод беднякоў, на поўнае каапэраваньне іх, абслугоўваньне крэдытам, сыравінаю і даць шэраг льгот, якія дапамагалі-б эканамічнаму і культурнаму росту. Палепшаньне працы ў арцелях і таварыствах можа быць толькі пры ўмове знаходжаньня ў кіраўнічых органах такіх людзей, якія жадаюць і могуць праводзіць у жыцьцё дырэктывы кампартыі і ўраду. Таму яшчэ раз павінны быць праверыны кіраўнічыя органы з мэтаю пазбаўленьня ў іх чужых нам элемэнтаў. На іх месца павінны быць вылучаны самыя лепшыя таварышы з бядняцка-серадняцкіх груп, якія могуць правільна праводзіць усю палітыку партыі ў прамкаапэрацыі.

Разам з чысткаю арцеляй павінна быць праведзена чыстка ў крэдытна-прамысловых таварыствах, у якіх ня ў меншай ступені мы маем засьмечанасьць, чым у арцелях. У асобных выпадках крэдытна-прамысловыя т-вы цалкам скарыстоўваліся дзеля сваіх асабістых мэтаў прыватным капіталам. Адпускаліся крэдыты і тавары нэпманам, кантрабантыстам і кулаком за лік зьмяншэньня водпуску крэдытаў і тавараў бядняцка-серадняцкім групам. Адсутнічаньне клясавай сутнасьці ў працы некаторых т-ваў перасягнула ўсякія межы, і т-вы адчынена зрабіліся ворагамі бядняцкіх груп саматужнікаў і сялянства, адмаўляючы нават у прыёме іх у сябры т-ва.

Тлумачыцца гэта тым, што на працу т-ваў амаль ніхто не зьвяртаў увагі, праверка іх працы не адбывалася, у якасьці кіраўнікоў т-ваў пападалі выпадковыя элементы – прыхільнікі нэпманаў і кулакоў, адгэтуль як вынік—дрэнныя вынікі працы. Таму ў кароткі тэрмін павінна распачацца праца па чыстцы т-ваў з мэтаю пазбаўленьня іх ад гандляроў, саматужнікаў—гаспадароў эксплёататараў, якія карыстаюцца працаю другіх саматужнікаў, кантрабандыстаў, духоўных асоб, валютчыкаў і іншых, якім ня месца ў каапэрацыі.

Адначасова з чысткай павінна быць упарадкавана праца па прыёму новых сяброў. Трэба знайсьці такія арганізацыйныя формы сувязі паміж акрсаюзамі, арцелямі і таварыствамі, якія-б не давалі магчымасьці ізноў трапляць у прамкаапэрацыю розным непажаданым элемэнтам. Неабходна гэту працу паставіць пад кантроль акрсаюзаў.

Зьезд адзначыў нездавальняючы падбор працаўнікоў у апаратах БСПС і акруговых саюзах; асабліва гэта было выразна заўважана па арганізацыйна-інструктарскаму апарату, які дзякуючы сваёй слабай кваліфікацыі і адсутнічаньню яскравай палітычнай установкі ў працы ня здолеў справіцца з сваімі асноўнымі задачамі па кіраўніцтву і інструктаваньню акрсаюзаў і нізавой сеткі. Зьездам прапанована ўзмацніць якасны падбор працаўнікоў і асаблівую ўвагу зьвярнуць на арганізацыю вытворчага інструктажу.

Арганізацыя вытворчага інструктажу ў нашых умовах зьяўляецца асабліва каштоўным мерапрыемствам, і арганізацыя яго будзе дапамагаць якасьці прадукцыі, якая да гэтага часу мае шэраг недахопаў. Прынята пастанова аб узмацненьні працы па падрыхтоўцы кваліфікаваных працаўнікоў праз адпаведныя тэхнікумы, прафтэхшколы і курсы.

Зьезд канстатаваў ўстойлівае фінансавае становішча ўсіх галін сыстэмы, але адначасова, улічваючы намечаныя мерапрыемствы па пашырэньню дзейнасьці сыстэмы у розных галінах, прынята пастанова аб узмацненьні зваротных сродкаў у сыстэме шляхам мабілізацыі іх сярод сваіх сяброў. Для арцеляў устаноўлены двухмесячны пай ад заробку саматужнікаў і 2-тыднёвы ад заробку ў спэцыяльны фонд на гандлёва-пасярэдніцкія апэрацыі. Па крэдытна-прамысловых т-вах пай ўстаноўлены ў 20 руб. з пайшчыка і 10 руб. спэцыяльных на таварныя апэрацыі. Адначасова

прапанавана ВКПС прапрацаваць парадак, тэрміны і формы да хутчэйшага правядзеньня гэтага мерапрыемства, якое палепшыць фінансавае становішча сыстэмы і дасьць магчымасьць пашырыць яе дзейнасьць. Таксама даручана вызначыць мерапрыемствы па прыцягненьню ўкладаў і па ўпарадкаваньню самой укладной апэрацыі.

З мэтаю ўпарадкаваньня фінансавае гаспадаркі і яе рацыяналізацыі павінен быць узяты курс на замену камэрцыйнага крэдыту і вэксалю ўнутрысыстэмнымі разьлікамі. Адначасова неабходнасьць арганізацыі капітала кіраўніцтва і пабудовы ўнутрысыстэмнага грашовага крэдыту высоўвае на чаргу пытаньне аб пераводзе існуючых саюзаў на статут крэдытна-прамысловых саюзаў. Гэта пытаньне—надзвычайна складанае і патрабуе вялікай прапрацоўкі, але, ня гледзячы на гэта, у працягу новага гаспадарчага году прапрацоўка яго павінна быць закончана і рэальна прыступлена да ажыцьцяўленьня гэтае дырэктывы.

У галіне гаспадарчае працы неабходна перайсьці на шлях заключэньня генэральных умоў, цэнтралізаваць усе забясьпечанска-збытавыя апэрацыі і праводзіць гэтакія на камісійных пачатках. Пабудова гэтае працы патрабуе дысцыпліны ад ўсяе сеткі, пры чым невыкананьне сеткай гэтай дырэктывы, а асабліва ў галіне збыту, павінна ў аднолькавай ступені памянаць і забясьпечаньне сыравінай. Адначасова з боку БКПС і акрсаюзу павінна быць устаноўлена ў гэтых пытаньнях выразнасьць і акрэсьленасьць, тады посьпех працы будзе забясьпечаны. Саматужнікі-адзіночкі, якія забясьпечваюцца сыравінай праз т-вы, павінны сваю прадукцыю здаваць выключна прамкаапэрацыі. Не павінна быць такога становішча, калі саматужнік-адзіночка атрымліваў сыравіну ад т-ва, а прадукцыю прадаваў на бок, паміма т-ва, у рукі розных спэкулянтаў. Арганізацыя збыту прадукцыі саматужнікаў-адзіночак зьяўляецца пытаньнем сёньняшняга дню. Гэта мерапрыемства ня можа адкладвацца, а павінна быць з пачатку новага гаспадарчага году праведзена ў жыцьцё. Такім чынам, сыравіне, якая атрымліваецца, павінен быць арганізаваны падлік, і ніводзін мэтр мануфактуры ці сыравіны не павінен папасьці ў рукі спэкулянтаў.

Да сучаснага моманту па ўсёй сыстэме прамкаапэрацыі не ўдзялялася дастатковае ўвагі культурна-асьветнай працы. Зьезд пастанавіў ўзмацніць гэту працу і асноўную ўвагу накіраваць на ліквідацыю няпісьменнасьці і малапісьменнасьці сярод каапэраваных сяброў, ліквідаваўшы няпісьменнасьць сярод сяброў арцелі ў працягу 1929—30 г.; пашырыць існуючую сетку прафтэхшкол, майстэрань і курсаў па рамесьніцкай асьвеце; правесьці 3-тыднёвыя курсы нізавога актыву пры саюзах і 2-месячныя пры БКПС, адначасова паставіўшы пытаньне перад Усекаапрамсаветам аб арганізацыі сталых курсаў па перападрыхтоўцы працаўнікоў саюзаў; павялічыць лік дзіцячых установ (ясьлі, дзіцячыя сады, пляцоўкі, ачагі); павялічыць асыгнаваньні на клюбы, а для ажыўленьня іх працы ўвесьці сяброўства.

Для ажыцьцяўленьня усіх намечаных мерапрыемстваў у галіне культпрацы вырашана сканцэнтраваць фонды пры акрсаюзах, і адначасова павінен быць створаны цэнтральны фонд пры БСПС з 20 проц. адлічэньняў ад сумы фондаў культасьветпрацы для правядзеньня мерапрыемстваў у рэспубліканскім маштабе.

Адзначана слабая праца рэвізійных камісій у нізавых зьвеньнях і, як вынік, безгаспадарчасьць і растраты ў некаторых арцелях і таварыствах, і наогул кантроль і справаздачнасьць пастаўлены не здавальняюча, і таму гэтаму пытаньню трэба ўдзяліць асаблівую ўвага шляхам скліканьня асобных курсаў-зьездаў рэвізійных камісій і працаўнікоў-рахункаводаў; прапрацована пытаньне аб спрашчэньні справаздачнасьці і прыстасаваньне яе да нашых умоў.

Па дакладу аб 5-гадовым пляне прамкаапэрацыі прынята пастанова, што прамкаапэрацыя, зьяўляючыся дадаткам да дзяржаўнай прамысловасьці, працуе роўналежна з ёю на дэфіцытнай і недэфіцытнай сыравіне і павінна ўдзяліць асаблівую ўвагу арганізацыі промыслаў, якія апіраюцца на мясцовую сыравіну. Выяўленьне магчымасьцяй разьвіцьця промыслаў, на мясцовай сыране зьяўляецца пытаньнем новым, складаным і мала вывучаным. Яго вырашэньне патрабуе актыўнага садзейнічаньня дзяржаўнай прамысловасьці ў другіх органах, асабліва працуючых у вёсцы.

У працягу 5-годзьдзя вызначана павялічыць каапэраваньне ў промыслах, якія працуюць на мясцовай сыравіне, да 26064 чалавек (рост у параўнаньні з 1927—28 г. на 248 проц.) Плянам падугледжана каапэраваць усю беднату, на што павінна быць скарыстана 3430,9 т. р. Каапэраваньне беднаты павінна праводзіцца выключна ў абагульняючым сэктары—арцелях, што дасьць магчымасьць палепшыць эканамічнае і культурнае абслугоўваньне беднаты.

Зьездам прыняты пастановы аб зьніжэньні сабекаштоўнасьці гатовай прадукцыі на 20 проц. і адпускной цаны на гатовыя вырабы—на 30 проц. за 5-годзьдзе, пры чым ў адносінах да адпускной цаны на вырабы зьезд прапанаваў прапрацаваць шэраг мерапрыемстваў з мэтаю большага павялічэньня зьніжэньня.

Зьездам замацаваны аб'ём валавой прадукцыі сыстэмы ў 1932—33 г. у суме 171.227,8 тысяч рублёў, у гэтым ліку арцеляй 136.914,2 тыс. руб.

Усе мерапрыемствы, намечаныя на зьездах, і тая ўвага, якая ўдзяляецца кампартыяй і ўрадам да прамкаапэрацыі, даюць магчымасьць з посьпехам выканаць сваю ролю па агульнаму падняцьцю вытворчых сіл краіны і палепшаньню дабрабыту многіх дзесяткаў тысяч бядняцка-серадняцкіх мас саматужнікаў і рамесьнікаў Беларусі.

---

# За палепшаньне працы

## Ад усесаюзнага камітэту па правядзеньню III-га ўсесаюзнага конкурсу на лепшае сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства, арганізаванага пры Народным Камісарыяце Фінансаў СССР усім сельска-гаспадарчым крэдытным таварыствам

### ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!

Праца сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў, бяссумненна, кожны год паляпшаецца, але ўсё-ж ня можа быць прызнана наладжанай як сьлед. Каб палепшыць працу ўсяе сеткі таварыстваў, неабходна ня толькі змагацца з тымі недахопамі і няправільнымі ўхіламі, якія маюцца ў іх працы, але і выяўляць посьпехі, дасягнутыя асобнымі таварыствамі, выкарыстоўваючы іх практыку ў працы ўсяе масы таварыстваў.

У мэтах выяўленьня і заахвочваньня лепшых с.-г. крэдытных таварыстваў, стварэньня ў іх асяродку спаборніцтва і ў адзнаку памяці намесьніка Народнага камісара фінансаў Саюзу ССР Мірона Канстантынавіча Ўладзімерава, Народны Камісарыят Фінансаў Саюзу ССР пры ўдзеле Цэнтральнага с.-г. банку Саюзу ССР, Усесаюзнага Савету с.-г. каапэрацыі і Ўсерасійскага каапэрацыйнага банку арганізуе III-ці ўсесаюзны конкурс на лепшае с.-г. крэдытнае таварыства.

У III конкурсе могуць браць удзел усе с.-г. крэдытныя т-вы, якія існуюць ня менш двух год, а таксама прамыслова-крэдытныя т-вы, якія абслугоўваюць выключна сельскае насельніцтва. У конкурсе могуць браць удзел і таварыствы, прэм'яваныя на папярэдніх конкурсах.

Т-вы, якія жадаюць браць удзел у конкурсе, а таксама асобы, установы і арганізацыі, якія вылучаюць таварыства на конкурс, павінны паведаміць аб гэтым у конкурсную камісію пры мясцовым фінансавым аддзеле.

Ацэнка дзейнасьці і дасягненьняў крэдытнага таварыства вытвараецца на аснове: а) гадавое справаздачы таварыства за 1928-29 год з дадатковымі да яе весткамі, б) атрыманых аб працы таварыства водзывах і в) іншых матар'ялаў, якія характарызуюць дзейнасьць таварыства і якія прадстаўляюцца па погляду праўленьня т-ва.

На аснове паказаных дадзеных мясцовая конкурсная камісія робіць адбор лепшых т-ваў і надсылае матар'ялы аб іх дзейнасьці ва Ўсесаюзны конкурсны камітэт.

Т-вы, якія ўдзельнічаюць у конкурсе, прэм'ююцца за наступныя дасягненьні:

а) за дасягненьні ў працы па калектывізацыі сельскае гаспадаркі таго раёну, які ахоплівае сваёю працаю т-ва, шляхам аказаньня арганізацыйнай, крэдытнай і агравытворчай дапамогі калгасам, а таксама за садзейнічаньне да пераходу існуючых форм сельска-гаспадарчых вытворчых аб'яднаньняў з ніжэйшых форм у вышэйшыя;

б) за высокую ступень каапэраванасьці абслугоўваемага т-вам сельскага насельніцтва і, у асаблівасьці, яго бядняцка-серадняцкай і батрацкай часткі;

в) за значны ўдзел сяброў таварыства у складаньні яго капіталу і істотнае значэньне ўласных капіталаў т-ва ў агульнай суме яго зваротных сродкаў;

г) за вялікую актыўнасьць сяброў т-ва і, у асаблівасьці, за прыцягненьне да працы т-ва бядняцкіх і батрацкіх груп яго сяброў;

д) за правільную арганізацыю справы абслугоўваньня крэдытам і іншымі апэрацыямі бядняцкай часткі сяброў таварыства, калгасаў і іншых сельска-гаспадарчых вытворчых аб'яднаньняў;

е) за шырокае разьвіцьцё т-вам укладных апэрацый і, у асаблівасьці, за кошт сродкаў насельніцтва;

ж) за поўнае і сваечасовае скарыстоўваньне сродкаў таварыства, вызначаных на крэдытныя апэрацыі;

з) за паглыбленьне крэдытнай дысцыпліны сярод сяброў таварыства (за найменшы процант пратэрмінаваных і перапісаных сябрамі т-ва пазык);

і) за значнае і здаровае разьвіцьцё збыту забясьпечанскіх апэрацый за кошт авансаў сяброў таварыства ці за кошт спэцыяльных капіталаў і за пасьпяховую працу па кантрактацыі;

к) за сыстэматычнае правядзеньне рэжыму эканоміі і зьніжэньня накладных выдаткаў;

л) за правільна арганізаваную арганізацыю найпрасьцейшых банкаўскіх апэрацый;

м) за добрую агравытворчую працу, накіраваную на падвышэньне ўраджайнасьці і, у прыватнасьці, за садзейнічаньне правядзеньню агра мінімуму;

н) за добрую культурна-асьветную дзейнасьць, накіраваную ў адпаведнасьці з задачамі т-ва.

Для прэм'яваньня лепшых таварыстваў вылучаецца 31 прэмія на суму 24.000 рублёў. Прэміі вызначаюцца трох разрадаў:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 3 | прэміі першага | разраду | —па 2000 | рублёў кожная |
| 8 | прэмій другога | „ | — „ 1000 | „ „ |
| 20 | „ трэцяга | „ | — „ 500 | „ „ |

Прэміі, прысуджаныя лепшым таварыствам, выдаюцца пры асобным дыплёме ад імя Ўсесаюзнага конкурснага камітэту.

Апрача таго, т-вам, праца якіх будзе прызнана Ўсесаюзным конкурсным камітэтам заслугоўваючай ўвагі, будуць выдадзены пахвальныя водзывы.

Прысуджаныя прэміі носяць імя б. нам. Наркамфіну СССР М. К. Уладзімерава, за кошт якіх прэм'яваныя т-вы вытвараюць спэцыяльны ўласны капітал імя М. К. Уладзімерава. Капітал гэты скарыстоўваецца для крэдытаваньня сяброў т-ва.

Апрача гэтага, вылучаецца асобны фонд для заахвочваньня і ўзнагароды тых працаўнікоў прэм'яваных т-ваў, дзякуючы дзейнасьці якіх т-ва вылучылася ў лік лепшых, а менавіта: для працаўнікоў т-ва, якое атрымала 1-ю прэмію, па 250 рублёў на т-ва, 2-ю прэмію па 200 руб. і 3-ю прэмію—па 100 рублёў на т-ва.

Прысуд усіх прэмій адбудзецца ў Маскве 15 лютага 1930 году.

Падрабязныя ўмовы ўдзелу ў конкурсе і блянкі анкет т-вы могуць атрымаць у мясцовых фінансавых аддзелах, таварыствах с.-г. крэдыту і сельска-гаспадарчых каапэрацыйных саюзах.

Кожнае с.-г. крэдытнае т-ва, праверыўшы сваю працу, свае дасягненьні і недахопы, павінна рыхтавацца да ўдзелу ў конкурсе.

Усе матар'ялы, якія паступілі на конкурс, будуць уважліва разгледжаны з падлікам ня толькі тых дасягненьняў, якія маюцца ў працы т-ва, але і тых агульных абставін, у якіх працякала праца кожнага таварыства

**Усесаюзны конкурсны камітэт па правядзеньню III-га ўсесаюзнага конкурсу на лепшае с.-г. крэдытнае таварыства**

---

К. К.

# Сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы Беларусі, рыхтуйцеся да III Усесаюзнага конкурсу!

Сетка сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў у Беларусі вырасла да 300 з ахопам 309,3 тыс. сялянскіх гаспадарак, альбо 40 проц. усіх сялянскіх двароў і 3937 вытворчых аб'яднаньняў з колькасьцю ў іх членаў у 500 тыс.

Гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што сел.-гасп. крэдытныя таварыствы зьяўляюцца масавымі арганізацыямі сялянства. Грашовыя сродкі, якія накіроўваюцца і будуць накіраваны праз с.-г. крэдытныя таварыствы, і іх выключная роля па мабілізацыі сродкаў самога насельніцтва, падкрэсьліваюць

якім магутным рычагом зьяўляецца сыстэма с.-г. крэдыту і, асабліва, самыя сель.-гаспад. крэдытныя таварыствы ў руках партыі і ўраду як у сэнсе поўнага забясьпечаньня сродкамі працэсаў індустрыялізацыі, сацыяльнай і тэхнічнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, вызначанай пяцігадовым плянам, так і пасьпяховага вырашэньня іншых гаспадарча-палітычных праблем.

Пагэтаму 3-му Ўсесаюзнаму конкурсу, які праводзіцца Камісарыятам грашовых спраў СССР сумесна с Цэнтрасельбанкам СССР, Усесаюзным саветам сельска-гаспадарчай каапэрацыі і Ўсекабанкам на лепшае с.-г. крэдытнае таварыства, што ставіць мэтай вывучэньне ўмоў працы паасобнага таварыства, выяўленьня як дасягненьняў, так і недахопаў усяе сеткі таварыства, з боку ўстаноў і арганізацыяў рэгулюючых працу таварыстваў павінна быць зьвернута максымум увагі як падрыхтоўцы да конкурсу, так і яго правядзеньню.

Дзеля непасрэднага кіраўніцтва ў падрыхтоўцы і правядзеньні конкурсу утвораны камісіі: пры Наркамфіне БССР—рэспубліканская камісія з прадстаўнікоў: НКФ, Белсельбанку, Усекабанку і прадстаўніка друку; пры акрфінаддзелах—акруговыя конкурсныя камісіі ў складзе прадстаўнікоў акрфа, акрсельбанкаў, акрсельсаюзаў, мясцовых арганізацыяў і мясцовага друку. Праца камісіяў павінна быць пабудована на прынцыпах, паказаных у абежніку Усесаюзнага конкурснага камітэту за № 1, які маецца ўва ўсіх акругах. Рэспубліканская камісія павінна даслаць конкурсныя матар'ялы ва Ўсесаюзны камітэт да 15 студзеня 1930 г. Выходзячы з таго, што гэтыя матар'ялы будуць разгледжаны ў трох камісіях—акруговай, рэспубліканскай і ўсесаюзнай, таму акруговым камісіям неабходна пабудаваць так сваю працу, каб конкурсныя матар'ялы пачалі паступаць ад іх у рэспубліканскую камісію не пазьней 1 сьнежня 1929 г.

Трэба памятаць, што посьпех і вынікі конкурсу ў значнай меры залежаць ад таго, як уважліва аднясуцца конкурсныя камісіі да працы па падрыхтоўцы да конкурсу, які ўдзел прымуць партыйныя і савецкія арганізацыі на месцах, у якой меры будуць скарыстаны ў мэтах шырокай інфармацыі мясцовыя арганізацыі друку, і як уважліва аднясуцца самі сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы да падрыхтоўкі і правядзеньня 3-га ўсесаюзнага конкурсу на лепшае сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства.

---

**Ніводнага сельска-гаспадарчага крэдытнага таварыства не павінна застацца бяз увагі грамадзкае думкі! Шлеце матар'ял у конкурсныя камісіі аб сваіх таварыствах, адзначайце іх дасягненьні і недахопы!**

---

С. Кудзінаў

# Жанчына і калгасы БССР

## У складзе калгасаў—палова жанчын

На 1/Х—28 году ў 994 калгасах БССР у складзе насельніцтва было 44.614 душ, у тым ліку 50 проц. жанчын.

На 15/V—29 году колькасьць калгасаў павялічылася да 1.455, а насельніцтва—да 71.652, пры чым колькасьць жанчын перавышае 35.000 асоб.

Такім чынам, у складзе насельніцтва і сяброў калгасаў Беларусі колькасьць мужчын і жанчын прыблізна аднолькавая.

Уваходжаньне ў калгасы такой значнай масы сялянак стварае новую базу працы—працу сярод жанчын-калгасьніц, працу ў новых умовах, якая патрабуе асаблівай увагі і вывучэньня.

Рост колькасьці прылад і сродкаў вытворчасьці, карыстаньне імі на калектыўных умовах, пераход да шырокага прымяненьня машын і нагул да культурных спосабаў працы—усё гэта спатыкаецца з старымі традыцыямі, сямейным укладам, культурнай адсталасьцю і г. д., якія засталіся ў спадчыну калгасьнікам ад дробных індывідуальных гаспадарак мінулага.

Асаблівую ролю ў гэтым сэнсе мае жанчына-сялянка, як найбольш адсталы пласт нашае беларускае вёскі.

Толькі пры вырашэньні ў дадатны бок усіх гэтых процілегласьцяй калгас, як гаспадарчая адзінка, атрымлівае магчымасьць нармальнага разьвіцьця, а калгасны рух атрымлівае большую магчымасьць пашырэньня.

## Становішча жанчыны ў калгасах

У мінулым годзе праводзілася некаторае абсьледваньне гаспадарчага і грамаздка-культурнага становішча жанчыны ў калгасах БССР. Гэта абсьледваньне выявіла шмат недахопаў і цяжкасьцяй у становішчы жанчыны.

З боку жанчын-сялянак цяга да непасрэднага ўдзельнічаньня ў будаўніцтве калектыўных формаў землеробства ў існуючых калгасах, канечна, значна павялічваецца.

За выключэньнем паасобных груп яўрэйскіх калгасьніц, якія вышлі з гандлярскага асяродзьдзя, і іншых выпадкова трапіўшых у калгасы элемэнтаў, уся маса калгасьніц лічыць сябе непасрэдна зацікаўленай ў падвышэньні агульнага гаспадарчага ўзроўню калгасаў.

Але-ж зацікаўленасьць жанчын у практычным жыцьці сустракае цэлы шэраг перабояў гаспадарчага зьместу. Усё гэта перашкаджае жанчынам разьняволіць сябе: тут і грубыя бюракратычныя адносіны кіруючых органаў калгасаў да штодзённых патрэбаў жанчын, і няўважлівыя адносіны ў пытаньнях палепшаньня быту з боку нізавых партыйных арганізацый у паасобных партыйцаў.

У большасьці выпадкаў становішча жанчын у калгасах такое самае, як і ў звычайных сялянскіх гаспадарках. Жанчынам нідзе не давяраюць гаспадарчыя апэрацыі, а таксама кіраваньне паасобнымі галінамі гаспадаркі. Жанчын зусім не дапушчаюць да працы на машынах. Роўнай аплатай працы параўнаўча з мужчынамі жанчына амаль што не карыстаецца.

Жанчына ў калгасах у большасьці зьяўляецца нявольніцаю ў хатнім побыце: ёй даводзіцца ня толькі працаваць, як сябру калгасу, але і мець яшчэ значную нагрузку дома. Ёй трэба дагледзець дзяцей, прырахтаваць сьнеданьне, абед, мыць, шыць розную вопратку, прыбіраць у хаце і рабіць яшчэ шмат рознай працы.

Але мала таго, што жанчыне даводзіцца несьці ўвесь цяжар хатніх абавязкаў, за якія яна не атрымлівае ніякае платы, з ёю несправядліва абыходзяцца і ў калгасе на грамадзкіх працах. Як вышэй адзначана, у большасьці выпадкаў жанчыны за аднолькавую працу з мужчынамі атрымліваюць меншую аплату, ня гледзячы на тое, што ёсьць адпаведныя пастановы ўсесаюзнага і ўсебеларускага зьезду калгасаў наконт аднолькавае аплаты іх працы.

Ёсьць і такія выпадкі, калі некаторыя жанчыны ня хочуць выходзіць на агульную працу... Ім неабходна кожнай паасобку дагледжваць сваіх дзяцей. Гэта пераважна бывае ў яўрэйскіх калгасах, у сувязі з чым там летам наглядаецца значны наём працоўнай сілы звонку. Гэта, канечна, падае вялікім цяжарам на агульны балянс калектыўнай гаспадаркі. Ня гледзячы на гэта, самі калгасы мала праявілі ініцыятывы ў сэнсе рацыяналізацыі жаночае працы.

## Удзел жанчын у кіруючых органах калгасаў

Ня гледдзячы на тое, што лік працоўных мужчын і жанчын у калгасах амаль што аднолькавы, удзел жанчын у кіруючых органах калгасаў значна меншы. Аднак, у параўнаньні з мінулымі гадамі ўдзельная вага жанчын у кіруючых органах паступова павялічваецца. Гэта відаць з наступнае табліцы:

| | Праўленьне | | Рэвізійныя камісіі | |
|---|---|---|---|---|
| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1926-27 г | 1927-28 г. |
| Мужчын . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 95,4% | 94,4% | 90% | 84,6% |
| Жанчын . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 4,6% | 5,6% | 10% | 15,4% |

У гэтым годзе, па зьвестках, атрыманых па 61 калгасу Магілеўскай акругі, з 216 асоб, абраных у праўленьні калгасаў, было абрана 22 жанчыны, альбо 10 проц. У рэвізійныя камісіі па гэтых калгасах было абрана 192 асобы, у тым ліку 24 жанчыны ($12^1/_2$ проц.).

Такое становішча наглядаецца ня толькі па Магілеўшчыне, але і наогул па ўсёй Беларусі.

Удзел жанчын у органах кіраўніцтва паасобных відаў калгасаў у 1927-28 годзе наступны:

| Віды калгасаў | Колькасьць калгасаў | Праўленьне ці савет: Усяго членаў | Праўленьне ці савет: У тым ліку Мужчын | Праўленьне ці савет: У тым ліку Жанчын | Рэвізійная камісія: Усяго членаў | Рэвізійная камісія: У тым ліку Мужчын | Рэвізійная камісія: У тым ліку Жанчын |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Камуны . . . . . . . . . . . . . . | 51 | 163 | 150 | 13 | 147 | 125 | 22 |
| Арцелі . . . . . . . . . . . . . . | 379 | 1047 | 989 | 58 | 860 | 723 | 137 |
| Т-вы па супольн. апр. зямлі . . . . | 57 | 163 | 156 | 7 | 136 | 119 | 17 |
| Усяго . . . . . | 487 | 1373 | 1295 | 78 | 1143 | 967 | 176 |
| У %% . . . . . . | — | 100 | 94,4 | 5,6 | 100 | 84,6 | 15,4 |

Найбольшы удзел жанчын у органах кіраўніцтва камун (у саветах жанчын 8 проц.) і арцеляй (у праўленьні—5,5 проц), а найменшы—у таварыствах па супольнай апрацоўцы зямлі (у праўленьні—4,3 проц. жанчын).

Усё-ж трэба яшчэ раз адзначыць, што гэта зьявішча ненармальнае і што яно сьведчыць аб тым, што жанчыны ў большасьці калгасаў знаходзяцца ў тых самых умовах, як і ў звычайнай вёсцы.

Трэба рашуча зьнішчыць усе гэтыя адмоўныя зьявішчы. Трэба стварыць больш спрыяючыя ўмовы для жанчын-калгасьніц. Трэба рашуча ўцягваць больш жанчын-актывістак, грамадзкіх работніц у склад кіруючых органаў калгасаў.

## Жанчыны-калгасьніцы і новы быт

Новы быт паступова пранікае ў калгасы, дапамагаючы разьняволеньню жанчын-калгасьніц ад гаршкоў, дзяцей, пялёнак, ад усяе хатняй клапатні.

Новы быт прыносіць у калгасы грамадзкія кухні і сталовыя, пральні, дзіцячыя ясьлі, пляцоўкі і сады; новы быт садзейнічае стаць жанчыне роўнапраўнаю з мужчынам у калгасах, дае жанчынам вольную працу, культурныя веды і г. д.

Пытаньне аб утрыманьні і выхаваньні дзяцей зьяўляецца цэнтральным пытаньнем у жыцьці жанчын-калгасьніц.

Да апошняга часу ў розных калгасах па рознаму вырашаецца гэта пытаньне. Шмат калгасаў ажыцьцяўляе парадак забясьпечаньня дзяцей за рахунак пайку бацькоў, у выніку чаго няглядаецца разлад паміж тымі сябрамі калгасу, у якіх мала дзяцей і ў якіх шмат. Ствараецца недапушчальнае маёмаснае расслаеньне паміж сябрамі калгасу.

Іншыя калгасы ўтрымоўваюць дзяцей за агульны кошт шляхам водпуску ўстаноўленага пайку. Ёсьць і такія калгасы, якія вылучаюць прыблізна 25 проц. ад прыбытку ў выглядзе дапамогі дзецям.

Аднак, разьняволеньне жанчын магчыма толькі ў тым выпадку, калі ня толькі ўтрыманьне, а таксама і выхоўваньне дзяцей будзе калектыўным.

Вось чаму ў практыцы калгасаў ужо пачалося зрушэньне ў бок увядзеньня дзіцячых устаноў, каб яны абслугоўвалі ўсіх дзяцей школьнага ўзросту. Калгасам у гэтай працы неабходна дапамагчы.

Па 110 калгасах Менскай акругі ў 1927-28 годзе было два дзіцячых дамы, два дзіцячых сады і трое ясьляў, усяго 7 дзіцячых устаноў. Прыблізна таксама абстаяла справа з дзіцячымі ўстановамі і ў калгасах іншых акругаў БССР.

Арганізацыя ў калгасах грамадзкіх сталовак ідзе вельмі павольна. У шмат якіх выпадках адчыненьне гэтых сталовак робіцца немагчымым без асаблівых выдаткаў на абсталяваньне паасобных памяшканьняў.

Вельмі слаба выконваюцца дырэктывы партыі і ўраду аб 100-проц. ліквідацыі няпісьменнасьці ў калгасах, асабліва сярод жанчын. Да апошняга часу да 50 проц. дарослых жанчын, нават у даўно заснаваных калгасах, зьяўляюцца няпісьменнымі. Лікпункты, якія былі ў калгасах, з боку жанчын мелі недастатковае наведваньне.

Задачу аб ліквідацыі няпісьменнасьці жанчын неабходна высунуць у лік першачарговых.

Сярод жанчын калгасьніц вельмі мала камуністак і камсамолак. Так, у камунах на 1000 дарослых жанчын прыходзіцца ў сярэднім толькі

10 камуністак і 50 камсамолак. У арцелях і таварыствах па супольнай апрацоўцы зямлі іх яшчэ менш: на 1000 жанчын — 4 камуністкі і 30 камсамолак.

Усё гэта адзначае, што жанчына-сялянка ў калгасах актыўна яшчэ не ўцягнулася ў будаўніцтва, што яна ў большасьці тэхнічна і палітычна няпісьменная.

Тыя палепшаньні, якія назіраюцца ў калгасах у бытавых адносінах, вельмі недастатковыя і яшчэ не даюць магчымасьці калгасьніцы, як сьлед, узяцца за агульна-культурную працу.

Таксама вельмі недастатковая яшчэ ўвага зьвяртаецца на перавыхоўваньне жанчын нашымі партыйнымі арганізацыямі.

Таму неабходна ўзяць больш рашучы курс на палепшаньне працы сярод жанчын-калгасьніц такім чынам, каб поўнасьцю выращыць усе задачы па ўзмацненьню сацыялістычных элемэнтаў вёскі ў напрамку калектывізацыі.

---

# Рэзалюцыя па справаздачы праўленьня Белжылсаюзу

## Заслухаўшы справаздачу праўленьня Беларускага саюзу жыльлёвай каапэрацыі, 3-ці Усебеларускі зьезд Упаўнаважаных, які адбыўся 19—21 ліпеня г. г. адзначае наступныя дасягненьні

### I. У галіне гаспадарча-грашовай

1. Поўнае ахапленьне забясьпечаньнем будаўнічымі матар'яламі ўсяе сыстэмы і выкананьне плянаў забясьпечаньня.

2. Агульнае павялічэньне гаспадарчай дзейнасьці БЖС на 44,46 проц. і ў сярэднім па Жылсаюзу—на 52 проц.

3. Памяншэньне сярэдніх гандлёвых накідак з 7,16 проц. у 1927 годзе да 4,67 проц. у 1928 г.

4. Павялічэньне ўдзельнай вагі ўласных сродкаў у балянсе па БЖС на 8,4 проц. і па саюзах на 5,9 проц. і аздараўленьне грашова-крэдытнай дысцыпліны па ўсёй сыстэме.

### II. У галіне арганізацыйна-культбытавой

1. Значнае палепшаньне (якасьць і колькасьць) арганізацыйна-інструктарскай працы ў сэнсе ўстанаўленьня больш цеснай, жывой і пісьмовай сувязі з пэрыфэрыяй, шляхам плянавых абсьледваньняў і наведваньняў распрацоўкі шэрагу кіраўнічых інструкцыйных матар'ялаў па рахункаводзтву, першапачатковым падліку (блянк-вучоту), рэарганізацыі структуры дапаможных органаў праўленьняў нізавых каапэратываў і г. д.

2. Афармленьне ў заканадаўчым парадку шэрагу пастаноў 2-га Усебеларускага зьезду (перадача ЖАКТ-амі 10 проц. плошчы гарсаветам, удзел забудоўшчыкаў уласнымі сродкамі ў будаўніцтве, інстытут упаўнаважаных у ЖАКТ-ах и г. д.).

3. Скарачэньне ліку каапэратываў па ЖАКТ-ах на 46 проц., ЖСКТ на 22,1 проц., павялічэньне памераў плошчы, якая прыходзіцца на адзін ЖАКТ на 143 проц., прыбытковасьці на 83,5 проц., агульнае павялічэньне сяброў па ЖАКТ-ах на 32,1 проц., паявога капіталу на 219 проц., па ЖСКТ павялічэньне пайшчыкаў на 92,2 проц., паявога капіталу на 259 проц.

4. Павялічэньне каапэраванага муніцыпалізаванага жылфонду ад 59,5 проц. да 77 проц. у сярэднім па Беларусі і амаль што поўная перадача ЖАКТ'ам усяго гэтага фонду па некаторых акругах БССР (Менск, Гомель, Магілеў, Бабруйск).

5. Наладжаньне цьвёрдага дамавога бюджэту, што давяло да нармаваньня ўсіх нявытворчых выдаткаў.

6. Павялічэньне культбытавых устаноў і палепшаньне якасьці іх працы.

7. Пераход на буйнае шматкватэрнае каменнае будаўніцтва і ўпарадкаваньне падліку і справаздачнасьці па вядзеньню будаўнічых работ.

Выходзячы з вышэйпаказанага зьезд упаўнаважаных лічыць працу праўленьня БЖС здавальняючай, а лінію правільнай і адначасова канстатуе наступныя недахопы:

1. Усё-ж яшчэ не параўнавана норма жылплошчы на асобу рабочага насельніцтва ЖАКТ'у з усімі другімі групамі насельніцтва і нязначны рост удзельнае вагі ў агульным складзе жыхароў.

2. Слабае каапэраваньне жаночага насельніцтва ў дамох ЖАКТ'у і ўцягненьне яго ў органы кіраўніцтва і кантролю, значная запазычанасьць па кватэрнай плаце і паявых узносах.

3. Адсутнічаньне, ў сувязі з узбуйненьнем сеткі, новых больш удакладзеных арганізацыйных форм і мэтадаў па ўцягваньню пайшчыкаў у штодзённую працу каапэратываў.

4. Адсутнічаньне адзінай сыстэмы ў разьліках з пайшчыкамі, якія атрымалі кватэры ў РЖСКТ'а, а таксама і мэтадаў разьмяркоўваньня апошніх і недастатковасьць мерапрыемстваў зрабіць палёгку для маламоцных груп кватэрнай аплаты шляхам увядзеньня ўнутрыкаапэрацыйнай дыфэрэнцыяцыі плацяжоў, а таксама нездавальняючае разьвіцьцё такой самай дыфэрэнцыяцыі у заўчасным паянакапленьні.

5. Адсутнічаньне неабходных памяшканьняў для ўстаноў культурна-бытавога характару ў шматкватэрным будаўніцтве.

6. Адсутнічаньне дастатковага тэхнічнага інсткруктаваньня і нездавальняючае вывучэньне будаўніцтва шляхам нарадаў тэхнічных працаўнікоў і абмену вопытам у будаўніцтве месцаў.

На аснове адзначаных недахопаў і выходзячы з далейшых пэрспэктыў разьвіцьця жылкаапэрацыі, зьезд упаўнаважаных лічыць неабходным правядзеньне ў далейшай працы наступнага

## I. У галіне арганізацыйна-інструктарскай

1. Узмацніць інструктаваньне жылсаюзаў па пытаньнях абслугоўваньня апошнімі свае нізавой сеткі, устанаўленьня цьвёрдай каапэрацыйнай дысцыпліны ў адносінах сваечасовых адказаў на запыты, даваць неабходную справаздачнасьць, акрэсьлена-выразнай пастаноўкі вучоту штодзённай працы, узмацненьня плянавасьці, праверкі выкананьня сваіх пастановаў і дырэктываў вышэйшых арганізацый, зрабіўшы для гэтага адпаведныя меры ўплыву. Не выключаючы мер і эканамічнага характару і побач з гэтым у інтарэсах вызваленьня жылсаюзаў ад неналежачай ім працы, галоўным чынам, у пытаньнях разьмеркаваньня плошчы у ЖАКТ'ах і ЖСКТ, якія павінны быць цалком у кампэнтэнцыі вырашэньня, на аснове статуту і інструкцыі, непасрэдна каапэратывамі, зьезд ухваляе, што ўсе ўзьнікаючыя канфлікты на гэтым грунце павінны разглядацца рэвізійнымі камісіямі каапэратываў, і іх пастановы могуць быць скасаваны толькі агульным сходам ці замяняючым яго сходам упаўнаважаных.

2. Прызнаючы ненармальным, што рабочая група ў ЖАКТ'ах па ступені забясьпечанасьці нормай жылплошчы на аднаго чалавека адстае на 0,93 кв. мэтра—ад сярэдняй фактычнай нормы, а ад групы служачых—на 1,96 кв. мэтр.. зьезд лічыць неабходным давесьці норму забясьпечанасьці жылплошчаю асобы рабочага насельніцтва да сярэдняй фактычнай нормы, існуючай ў дадзенай мясцовасьці, а па ЖСКТ рабіць засяленьне кватэр, які адбудоўваюцца, рабочымі у памеры ня менш 90 проц. з сярэдняй нормай ня менш 8-мі квадратных мэтраў на чалавека, служачымі і другімі працоўнымі групамі ня больш 10 проц.

3. Пяцігадовы плян разьвіцьця народнае гаспадаркі Беларусі ставіць перад жылкаапэрацыяй задачу неабходнасьці цясьнейшай ўвязкі свае працы з інтарэсамі індустрыялізацыі краіны і бяручы пад увагу, што з агульнага складу сяброўскай масы ЖСКТ забясьпечана кватэрамі толькі 46,1 проц. далейшае разьвіцьцё будаўнічай каапэрацыі павінна ісьці ў напрамку разгортваньня свае дзейнасьці па абслугоўваньню, галоўным чынам, прамысловага пралетарыяту, увязваючы каапэраваньне з памерамі адпушчаемага крэдыту з такім разьлікам, каб кожнаму сябру ЖСКТ ня прыходзілася чакаць кватэры больш трох год, тэрмін які неабходна лічыць найбольшым і для накапленьня ўстаноўленага процанту ўласных сродкаў.

Групы непрамысловага пралетарыяту, аб'яднаныя прафсаюзамі: працасьветы, мэдсанпрацы, саўгандальслужачых і г. д., неабходна вылучыць у асобныя каапэратывы, вызначаўшы ім ня вышэй 20 проц. агульнай сумы крэдыту.

4. Прызнаючы, што нармальнае разьвіцьцё сеткі цалком залежыць ад ступені водпуску крэдытаў, і бяручы пад увагу, што буйнейшыя акругі рэспублікі: Менск, Бабруйск, Гомель і Магілеў перадалі свой муніцыпальны фонд жылкаапэрацыі, як найлепшай форме домакіраўніцтва, і што ў тым ліку перададзены таксама і новыя пабудаваныя дамы ў апошнія гады за лік крэдытаў і сваіх уласных асыгнаваньняў Віцебскам—пас. „Дзьвіна", Гомлем—дом Гарсавету, Гомель і часткова Бабруйск практыкуюць пераўступку сваіх крэдытаў РЖСКТ. Такое зьявішча маецца і ў прамысловасьці, дзе частковая перадача фонду палепшаньня быту рабочых практыкуецца ўвесь час, але таксама мае месца пераўступка крэдытаў Цэкамбанку з шкляным

трэстам заводу „Ільліч“. У інтарэсах большага прыцягненьня сродкаў і большай зацікаўленасьці сяброў у будаўніцтве паставіць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб пявялічэньні крэдытаў і ўдзельнае вагі кааперацыйнага будаўніцтва ў абагульняючым сэктары, шляхам перадачы крэдытаў і асыгнаваньняў дзяржаўных і гаспадарчых органаў, пры ўмове ўкладаньня патрабуемых законам уласных сродкаў (для рабочых 10 проц.—для служачых—20 проц.).

Для аздараўленьня сяброўскай масы, сярод якой маюцца неакуратныя платнікі сяброўскіх узносаў, перагледзець склад з тым разьлікам, каб вызваліцца ад так званых „мёртвых душ“.

5. У інтарэсах устанаўленьня адзінай формы эксплёатацыі домаўладаньняў і разліку з пайшчыкамі ўвесьці з 1 ліпеня 1929 г. аплату як заселеных, так і тых, якія будуць засяляцца, кватэр ЖСКТ з квадратнага мэтра жылплошчы па цэнах, устаноўленых гарсаветамі, арвыканкомамі з надбаўкаю ў 25 проц., уключаючы сюды ўсе віды выдаткаў (пакрыцьцё пазыкі, аплату процантаў, эксплёатацыйныя выдаткі і г. д.) і кіруючыся ў адносінах лішкаў плошчы, выгадаў і г. д. пастановаю СНК БССР ад 23/II—29.

6. Лічачыся з неабходнасьцю ўцягненьня ў будаўнічую кааперацыю нізка аплачваемых і шматсямейных груп рабочых і бяручы пад увагу, што водпуск крэдытаў дзяржаваю залежыць ад простай залежнасьці наліччa ўстаноўленага законам проценту ўласных сродкаў, увесьці з 1 жніўня 1929 г. дыфэрэнцыяваную сыстэму папярэдняга паянакапленьня, пабудаваную на падліку заробку ня толькі аднаго, але і ўсіх сяброў сям'і, якія працуюць, падзяляўшы на лік едакоў. У залежнасьці ад памераў заробкаў, якія прыходзяцца на аднаго едака, вызначыць асобныя группы рабочых па дыфэрынцыяванаму паянакапленьню, забясьпечыўшы адпаведны склад сяброў ЖСКТ, пры якім магчымы ў сярэднім збор 10 проц. уласных сродкаў для рабочых ЖСКТ і 20 проц. для служачых ЖСКТ.

Даручыць праўленьню БЖС аформіць у законадаўчым парадку сыстэму дыфэрэнцыяванага паянакапленьня.

7. Разьвіцьцё арэнднае кааперацыі павінна ісьці па лініі поўнага кааперавання асноўных наймальнікаў кватэр, пры чым гэта павінна быць пастаўлена канкрэтнай задачай на 1930 год, кааперавaньне астатніх жыхароў з самастойным заробкам і хатніх гаспадынь, кааперавaньня якіх павінна быць даведзена да 50 проц. агульнага ліку. Для пасьпешнага правядзеньня гэтага даручыць праўленьню БЖС распрацаваць канкрэтны плян правядзеньня кааперавaньня па асобных акругах.

8. Скончыць прыёмку дамоў муніцыпальнага фонду і дабіцца поўнага ахопу жыльлёвай плошчай, адбудаванай і тэй, што адбудоўваецца, прамысловасьці, дзеля чаго даручыць БЖС скласьці плян кааперавaньня паказанай плошчы, узгадніўшы яго з ВСНГ і ЦСПСБ.

9. Бяручы пад увагу, што прыбытковая частка бюджэту ЖАКТ'аў складае толькі 88,9 проц., кватэрная плата 69,5 проц. сабекаштоўнасьці квадратнага мэтру і што без доўгатэрміновага крэдыту, які ў сучасны момант нязначны і складае па Беларусі 200 тыс. руб., ЖАКТ'ы ня могуць вытвараць на ўласныя прыбыткі неабходныя рамонты для падтрыманьня домаўладаньняў, даручыць БЖС паставіць пытаньне перад урадам аб стварэньні спэцыяльных фондаў доўгатэрміновага крэдытаваньня арэнднай кааперацыі, шляхам перадачы ў гэты фонд мясцовымі бюджэтамі ўсіх прыбыткаў, якія атрымліваюцца ў выглядзе падаткаў і збораў ад дамоў, перададзеных ЖАКТ'ам, і шляхам, узмацненьня банкаўскага крэдытаваньня.

10. Побач з узмацненьнем доўгатэрміновых крэдытаў ЖАКТ'ам неабходна прыняць рашучыя меры па барацьбе з нядбайнымі адносінамі некаторых жыхароў да памяшканьняў, за палепшаньне санітарнага становішча домаўладаньняў, шляхам скарыстоўваньня дзеля гэтае мэты ўсяе сумы мерапрыемстваў, якія праводзяцца, у прыватнасьці, узмацніўшы культбытавую працу і прымяніўшы да злосных нядбайнікаў рэпрэсыйныя меры.

11. Для ўпарадкаваньня рамонтных прац, узмацненьня плянавасьці і палепшаньня тэхнагляду забараніць ЖАКТ'ам вытвараць рамонты гаспадарчым спосабам у выпадку перавышэньня сумы рамонту па ўсяму ЖАКТ'у у 2000 руб. У першую чаргу, якія прадугледжаны ўмоваю з камгасам, пры чым на ўсе выконваемыя рамонты павінна быць зроблена абавязковая прыёмка іх Камгасам. ЖАКТ'ы ў сваю чаргу павінны завесьці пунктуальны вучот выкананьня сваіх абавязацельстваў перад Камгасам па асобных домаўладаньнях.

12. Прапанаваць праўленьням ЖАКТ'аў строга прытрымлівацца нормы бюджэту па асобных яго галінах, а БЖС—устанавіць кантроль за выкананьнем гэтае пастановы.

13. Прызнаючы незадавальненьне існуючай сыстэмай паянакапленьня ў ЖАКТ'ах у сувязі з адсутнічаньнем у ёй дыфэрэнцыяцыі і прынцыпу часткoвага ўдзелу ў каштоўнасьці кватэры, прынятага ў ЖСКТ, даручыць БЖС у бліжэйшы час распрацаваць адпаведна заробку дыфэрэнцыяваную сыстэму паянакапленьня ў ЖАКТ'ах, пры якой апошняя складала-б у сыстэме адзін процант каштоўнасьці арандуемай плошчы.

14. Праведзенае ўзбуйненьне раёнаваньня ЖАКТ і ЖСКТ, гаспадарча ўзмацніўшае іх, адначасова паслабіла сувязь пайшчыкаў з выбарчымі органамі каапэратыву. Гэта становішча высоўвае першачарговую задачу адшуканьня больш гібкіх формаў і мэтадаў абслугоўваньня патрэб сяброўскай масы, якія забясьпечваюць яе ўдзел у штодзённай працы каапэратываў. Даручыць праўленьню БЖС распрацаваць рэарганізацыю структуры падсобных органаў праўленьняў каапэратываў з тым, каб апошнія адпавядалі пастаўленай вышэй задачы, тэрытарыяльна набліжаючы працу камісіі да пайшчыка. Аднэю з форм вырашэньня гэтага пытаньня павінна зьявіцца стварэньне з правам дарадчага голасу дамавых бюро і падсобных камісій са складу сяброў домаўладаньняў, аб'яднаных ім.

## II. У галіне гаспадарча-грашовай

1. Ня гледзячы на рост балянсу па жылсаюзах у сярэднім на 39 проц., а па БЖС—на 44 проц., рост уласных сродкаў жылсаюзаў на 5,9 проц. і БЖС—8,4 проц., зьезд лічыць грашовае становішча, ня гледзячы на яго ўстойлівасьць, вельмі напружаным па наступных прычынах:

а) загруджанасьць капіталаў у будаўніцтве па Менску—у 40-кватэрным доме, Гомлі—у доме Гарсавету ў разьмеры 848.800 рублёў;

б) вэксальны крэдыт па водпуску сыстэмы перавышае атрыманы ў два разы (атрыманы на 64 дні дадзен сыстэме на 108 дзён) супроць 67 дзён, на якія адпускаўся крэдыт у 1927-м годзе, (таксама і па адчыненых рахунках сярэдні астатак, які складаў 268 тысяч рублёў, што перавышае амаль у два разы тэрміны крэдыту мінулага году( атрымана на 24 дні, давалі на 45 дзён супроць 30 дзён 1927 году).

2. Прызнаючы гэта становішча, хаця яно і выклікана цэлым шэрагам аб'ектыўных прычын, вельмі ненармальным, з'езд ухваляе на бліжэйшы час спыніць усякі вэксальны крэдыт РЖСКТ, а ЖАКТ'ам і жылсаюзам даваць яго на ўмовах адпольскавых з атрымліваемым крэдытам, спыніць крэдыт па адчыненых рахунках, каму-б гэта сабе ні было і для вызваленьня зваротных сродкаў, загружаных у будаўніцтве, дамагацца перад урадам звароту іх з крэдытаў1930году.

3. У зьвязку з пастановаю ўраду аб канцэнтрацыі лесараспрацовак даручыць БЖС своечасова выявіць колькасьць лесаматр'ялаў, неабходных для ўсяе жылкаапэрацыі, і зрабіць генэральную ўмову для ўсяе сыстэмы. Выявіць своечасова крэдыты на 1930 год і прадугледзець плянам крэдытаваньне асадачнага рамонту па скончаньню кватэр.

4. Улічваючы, што хваля спаборніцтва, якая праходзіць па ўсяму Саюзу, слаба яшчэ закранула жылкаапэрацыю, як сыстэму, і спаборніцтва яшчэ не разгорнута ў дастатковай сыстэме, а малая практыка, якая маецца ў гэтай працы, на ўлічана і не асьвятляецца ў друку, праўленьню БЖС у мэтах зацікаўленасьці і больш пасьпешнага разгортваньня спаборніцтва тэрмінова распрацаваць пытаньне аб стварэньні фонду прэм'яваньня.

## III. У галіне культурна-бытавой

1. Культурна-бытавая праца павінна заняць адно з асноўных месц у працы жылкаапэрацыі, пры гэтым на бліжэйшы пэрыод практычнай задачай кожнага ЖАКТ'а і ЖСКТ павінна быць стварэньне установы па абслугоўваньню дзяцей, ліквідацыі няпісьменнасьці, распаўсюджаньня ідэй і арганізаваньня грамадзкіх таварыстваў, як-та: асавіяхіму, апамогі дзецям, бязбожнікаў, барацьбы з алкагалізмам і г. д., для чаго неабходна падвесьці больш сталую матар'яльную базу пад разгортваньне працы ў жылкаапэратывах і накіраваць на гэту мэту:

а) адлічэньні ад валавога прыбытку ЖАКТаў у разьмеры 10 проц.

б) адлічэньні ад прыбытку саюзу ня менш 5 проц.

в) чысты прыбытак ад здач няжыльлёвых памяшканьняў, будаваныхнепасрэдна жылкаапэратывамі;

г) пені за несвоечасовы ўзнос кватэрнай платы;

д) добраахвотныя налічэньні на кватэрную плату;

Па будаўнічых каапэратывах, акрамя гэтага, павінны адпускацца на гэту справу:

а) адлічэньні 25 проц. чыстага прыбытку ад здачы ў арэнду гандлёвых, складачных, канторскіх памяшканьнаў і памяшканьняў пад установы;

б) 50 проц. адлічэньняў ад прыбыткаў процантных налічэньняў на ўласны капітал, які знаходзіцца на бягучых рахунках;

в) налажэньне па аднэй капейцы на адзін квадратны мэтр жыльлёвай плошчы, замацаваўшы гэта сходам упаўнаважаных.

2. Строга сачыць за правядзеньнем у жыцьцё закону аб 5-проц. налічэньні на пабудову культурна-бытавых установаў і за выдаткаваньнем гэтых сродкаў па простаму прызначэньню. Абавязаць жылкаапэратывы, якія займаюцца будаўніцтвам ня менш як па 20 кватэр, вылучаць плошчу пад арганізацыю культурна-бытавых устаноў.

3. У правядзеньні культурна-бытавой працы на месцах больш удзяліць увагі пытаньням бытавога характару: арганізацыі пральняў, дзіцячых садоў, пляцовак, ясьляў, калектыўнага харчаваньня і г. д. Асабліва зьвярнуць увагу на працу з дзяцьмі ясельнага і школьнага ўзросту, паколькі гэта праца да сучаснага моманту ў нас разгортвалася слаба. Таксама ўзмацніць працу па санітарыі і дагляду памяшканьняў.

4. Побач з працай па калектывізацыі быту павесьці працу па рацыяналізацыі хатняе бытавое гаспадаркі: па падрыхтоўцы здаровага харчаваньня, дагляду і абсталяваньня кватэр, дагляду і выхаваньня дзяцей, папраўляць і шыць бялізну і г. д.

5. Лічыць, што асноўнаю формаю культасьвет працы ў жыльлёвых каапэратывах зьўляецца арганізацыя чырвоных куткоў; арганізацыю клюбаў магчыма праводзіць у рабочых пасёлках, адарваных ад культурных цэнтраў, сумесна з прафсаюзамі.

6. Узмацніць прапаганду ідэй жыльлёвай каапэрацыі на фабрыках і заводах, устанавіць сувязь з каапэрацыйнымі камісіямі, у рабочых клюбах праводзіць гутаркі і арганізацыі куткоў па жыльлёвай каапэрацыі. Больш зьвярнуць увагі на каапэрацыйную асьвету сяброў жылкаапэрацыі, на падрыхтоўку і перападрыхтоўку актыву працаўнікоў жылкаапэратыву, асабліва зьвярнуць увагу на ўцягненьне ў гурткі і курсы актыву работніц і жонак рабочых, таксама неабходна выявіць і ўлічыць запатрабаваньні ў кваліфікаваных працаўнікох на пэрыфэрыі.

7. У мэтах уцягненьня ў сябры жылкаапэрацыі жанчын і другіх сяброў сям'і пакінуць льготны пай у разьмеры, вызначаным другім зьездам упаўнаважаных. Апрача таго, скласьці фонд каапэраваньня нізка аплачваемых катэгорый жанчын, моладзі і другіх сяброў сям'і. Даць большае растэрмінаваньне па ўнясенью паю для нізка аплачваемых катэгорый. Прапрацаваць пытаньне аб ільготным каапэраваньні жанчын і моладзі ў будаўнічай каапэрацыі.

8. Узмацніць уцягненьне жанчын і моладзі ў органы кіраўніцтва і кантролю, таксама ўзмацніць вылучэньне жанчын на адказна-кіраўнічую працу вызваленых сяброў праўленьня жылсаюзаў, старшынь жылкаапэратываў, інструктароў і г. д.

9. Шырэй паставіць абгаварэньне праэктаў плянаў будаўніцтва на сходах актыву і жаночых сходах і больш уцягнуць хатніх гаспадынь, асабліва жонак рабочых, да грамадзкага нагляданьня за правядзеньнем новага будаўніцтва і рамонту.

10. Узмацніць кіраўніцтва культурна-бытавой працай з боку праўленьняў жылкаапэратываў і жылсаюзаў, дзеля чаго ў жылсаюзах неабходна мець спэцыяльна вызваленых інструктароў па культбытпрацы.

11. Улічваючы, што сябры жылкаапэрацыі зьяўляюцца ў большасьці сябрамі спажывецкай каапэрацыі, і што неабходна больш цесная ўвязка са спажывецкай каапэрацыяй для сумеснага абслугоўваньня бытавых патрэб сяброў, прапрацаваць сумесна з Белкаапсаюзам практычны плян сумеснай працы абедзьвюх сытсэм.

## IV. У галіне будаўніцтва

1. Асноўнымі недахопамі ў гэтай галіне працы зьяўляюцца:

а) незаўсёды дастаткова сур'ёзнае папярэдняе абгаварэньне праэктаваньня з вучотам усіх мясцовых умоваў і культурна-бытавых патрэб, адсутнічаньне больш рашучага дапасаваньня палегчаных канструкцый дамоў без паведамленьня запасаў мінулага, ужываньня новых матар'ялаў і г. д.

б) незаўсёды дастатковая і правільная падрыхтоўка да арганізацыі прац і своечасовае складаньне праэктаў, каштарысаў, падбор рабочае сілы і тэхпэрсаналу, разьмеркаваньне нагрузкі рабочых, папярэдняя распрацоўка каляндарных тэрмінаў выкананьня прац, правільнае і бесьперарыўнае забясьпечаньне прац матар'яламі, рацыянальнае скарыстоўваньне і разьмяшчэньне на пабудовах, рэгулярнае паступленьне грашовых сродкаў.

в) недастаткова выразна і рознастайна па мэтадах і формах тэхнічная справаздачнасьць, якая незаўсёды дае магчымасьць правільна паставіць вучот затрат на самых працах і хутка вызначыць каштоўнасьць апошніх.

2. Вышэйпаказанае ставіць перад жылкаапэрацыяй бязадкладную задачу прыняць рашучыя меры да зьнішчэньня паказаных недахопаў, шляхам укамплектаваньня сваіх будаўнічых аддзелаў адпаведным тэхнічным пэрсаналам і арганізатарскімі сіламі. Зьезд лічыць неабходным арганізацыю Белжылсаюзам праэктнага бюро і ўзмацненьне тэхнічнага інструктажу. Для абмену вопытам будаўніцтва пэрыодычна склікаць тэхнічныя нарады акржылсаюзаў і ў мэтах зацікаўліваньня інжынэрна-тэхнічнага пэрсаналу ў працы па эканоміі матар'ялаў і ўвядзеньня больш рацыянальных мэтадаў працы, устанавіць практыку прэм'яваньня, таксама разгарнуць дасьледчую рацыяналізатарскую працу, умацаваўшы працу вытворчых нарадаў непасрэдна на пабудовах і ў жылсаюзах.

# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

А. Плышэўскі

## Вынікі крэдытаваньня веснавой пасеўкампаніі гэтага году і падрыхтоўка да азімай

Плян крэдытаваньня веснавой пасеўкампаніі, па згодзе з Наркамземам, быў складзены Белсельбанкам у суме 7.244 тыс. руб. Пакрыць яго меркавалася за рахунак сродкаў Белсельбанку 5.924 т. р., акрсельбанкаў—470 т. р. і с.-г. крэд. т-ваў—850 т. р.

Асноўная адказнасьць за мабілізацыю сродкаў, як бачым, падала на верхнія 2 зьвяны—Белсельбнак і акрсельбанк. З гэтай задачай яны цалком справіліся. Так, яны выдалі непасрэдным пазычнікам 1.035 тыс. руб. і сельска-гаспадарчым крэдытным т-вам—5.767 тыс. руб., г. зн., выканалі плян на 106,4 проц.

Цяпер паглядзім, як фактычна выканаapplied плян усімі зьвеньнямі сыстэмы (Белсельбанкам, акрсельбанкамі і пачатковай сеткай) у частцы выдачы крэдытаў непасрэдным пазычнікам, асобна па кожнаму прызначэньню крэдытаў і ў параўнаньні з мінулым годам. Тут трэба толькі агаварыцца, што лічбы будуць папярэднімі, бо справаздача атрымана не ад усіх таварыстваў (70 проц.), і яна экстранаміравана на ўсе таварыствы. За тым у аналіз ня ўвойдуць наступныя прызначэньні: пладаводзтва, вапняныя, млыны і культуртэхніка, справаздачнасьць па якіх ня была ўведзена.

Фактычнае выкананьне пляну ўсімі зьвеньнямі сыстэмы ў параўнаньні з леташнім годам такое:

| Мэтавыя прызначэньні | Плян 1929 г. | Выдадзена ў 1929 г. | | Проц. выкананьня пляну | Выдадзена ў 1928 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Сума | Проц. да пад-рахун. | | Сума | Проц. да пад-рахун. |
| Насеннаводзтва | 480 | 454 | 9,1 | 95 | 102 | 2,7 |
| Травасеяньне | 925 | 466 | 9,3 | 50 | 578 | 15,0 |
| Тэхн. культуры | 485 | 500 | 10,0 | 103 | 133 | 3,5 |
| Зернев. „ | 1350 | 1502 | 30,0 | 111 | 668 | 17,4 |
| Сел.-гасп. машыны | 1000 | 756 | 15,2 | 76 | 653 | 17,0 |
| Трактары і зап. часткі да іх | 185 | 76 | 1,5 | 41 | 50 | 1,3 |
| Рамонт сел.-гасп. маш. | 205 | 167 | 3,3 | 81 | 77 | 2,0 |
| Угнаеньне | 600 | 309 | 6,2 | 52 | 115 | 3,0 |
| Рабжывёла | 800 | 772 | 15,4 | 97 | 1467 | 38,1 |
| Усяго | 6030 | 5002 | 100 | 83 | 3843 | 100 |

Тут неабходна адзначыць, па-першае, агульны рост сродкаў на фінансаваньне мерапрыемстваў пасеўкампаніі гэтага году ў параўнаньні з мінулым годам на 30 проц.

Аналізуючы накіраваньне сродкаў па асобных прызначэньнях, мы бачым перасоўкі, якія павінны былі забясьпечыць тыя асноўныя задачы, якія былі пастаўлены перад кампаніяй урадам, г. зн. пашырэньне пасяўной плошчы, уздым ураджайнасьці і пашырэньне тэхнічных культур, зразумела,

патолькі, паколькі гэта было ў залежнасьці ад сыстэмы. Так, крэдыты на такія асноўныя фактары ў справе ўздыму ўраджайнасьці, як штучнае ўгнаеньне і насеннаводзтва, даюць найбольш буйны рост у параўнаньні з мінулым годам, роля іх у агульнай суме крэдытаў узрасла па ўгнаеньню звыш як у 2 разы, а па насеннаводзтву звыш як у 3 разы. У гэтым-жа годзе ўпяршыню выдадзены крэдыты на новае мерапрыемства па ўздыму ураджайнасьці—вапнаваньне, хоць яны надта слаба скарыстоўваюцца. Зерневыя культуры, якія ішлі па лініі бяднейшых гаспадарак, таксама ўзрасьлі амаль удвойчы, што зьяўляецца адным з важных фактараў пашырэньня пасяўной плошчы ў гэтых групах. Мелі значнае падвышэньне і крэдыты на такія мерапрыемствы, як зерняачышчальныя пункты і арганізацыя рамонту сел.-гасп. машын

Адмоўным паказальнікам трэба лічыць значнае зьніжэньне ролі крэдытаў на травасеяньне, што знаходзілася, відавочна, у сувязі з недахопам насеньня ў натуры. Нязначнае зьніжэньне ролі крэдытаў маецца і па сел.-гаспадарчых машынах, хаця абсалютная сума і большая, чым у леташнім годзе.

Зварочваючыся да проц. выкананьня пляну, мы бачым, што засталося ня выкананым 17 проц. супроць леташніх 19 проц. З аналізу выкананьня па кожнаму асобнаму прызначэньню неабходна адзначыць, што гэтае невыкананьне ў асноўным не залежала ад сыстэмы с.-г. крэдыту. Такія прызначэньні, як травасеяньне, трактары і ўгнаеньне, як ужо гаварылася, ня выкананы з-за недахопу гэтых матар'ялаў у натуры. Зразумела, што тут часткова адбіваецца яшчэ і недасканалае плянаваньне ў сэнсе завозу гэтых сродкаў у таварыствы, бо ёсьць выпадкі, што ў адных таварыствах ёсьць астача гэтых матар'ялаў (канюшына, угнаеньне), а ў другіх—вялікі недахоп.

Па с.-г. машынах маецца вялікая затаваранасьць сеткі і астача крэдытаў па іх (звыш 1 млн. руб.), між тым плян застаўся ня выкананым на 24 проц. Гэтае зьявішча патрабуе свайго далейшага вывучэньня. Цяпер можна адзначыць толькі, што невыкананьне пляну часткова можа існаваць за лік недахопу некаторых сэзонных машын у таварыствах і за лік недастаткова разгорнутай працы па разьвіцьцю аб'яднаньняў па сумеснаму набыцьцю і скарыстаньню машын і іх рамонту (пасялковыя, машынныя і г. п. таварыствы), пры спыненьні крэдытаваньня на гэтую справу кулацкіх і заможных індывідуальных гаспадарак і абмежаваньні набыцьця складаных машын іншымі індывідуальнымі гаспадаркамі ў парадку крэдыту.

Зусім нязначнае невыкананьне пляну па рабжывёле (3 проц.) тлумачыцца тым, што частка т-аў ня вылучыла на гэта сродкаў, накіраваўшы іх у іншыя некрэдытныя апэрацыі (гандлёвыя).

Увогуле на 15 чэрвеня мы мелі ў пачатковай сетцы каля 1,5 млн. р. не скарыстаных сродкаў акрсельбанкаў, з іх на сел. гасп. машыны звыш 1 млн. руб., на травасеяньне, тэхнічныя культуры і ўгнаеньне, прыкладна, на 100 тыс. р., як раз па тых прызначэньнях, па якіх плян застаўся нявыкананым.

Выкананьне агульнага пляну па асобных акругах мае такі выгляд:

| | Бабр. | Віцеб | Гом. | Маз. | Маг. | Мен | Арш. | Пол. | Сярэд. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Проц. выкананьня пляну | 83 | 98 | 76 | 84 | 100 | 76 | 74 | 71 | 82 |

Па акругах: Віцебскай, Менскай і Магілеўскай дадзеныя найменш дакладныя, так як маюцца весткі толькі па 50, прыкладна, проц. та-ваў.

Цяпер прасочым, як гэтыя сродкі (5.002 тыс. руб.) разьмясьціліся па асобных сэктарах сельскай гаспадаркі і асобных групах пазычнікаў.

Тут мы маем наступныя лічбы (у процантах да падрахунку выдадзеных пасяўных крэдытаў):

| Групы кліентуры / Гады | Саўгасам | Калгасам | Іншш. арг. і ўстан. | Усяго сацыяліст. сэктару | Індывідуальн. гаспадаркам | Разам | Гаспадарк., зволе. ад с.-г. падат. у проц. да падрахунку індыв. гасп. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1928 . . . . . . . . . . . . . . . | 7,5 | 10,3 | 8 | 25,8 | 74,2 | 100 | — |
| 1929 . . . . . . . . . . . . . . . | 19 | 16 | 7 | 42 | 58 | 100 | 52 |

Тут мы бачым рашучую перасоўку крэдытных сродкаў з індывідуальнага ў сацыялістычны сэктар, пры чым апошні, як гэта і належыць, узрастае за лік саўгасаў і калгасаў. Надта вялікі ўзрост ролі саўгасаў тлумачыцца тым, што ў леташнім годзе частка пасяўных патрэб іх здавальнялася з агульных зваротных сродкаў Белсельтрэсту, якія сюды не ўвайшлі.

Для характарыстыкі накіраваньня пасяўных крэдытаў па асобных акругах, прывядзём разьмеркаваньне выдач пачатковай сеткі, ня ўлічваючы цэнтралізаваных выдач Белсельбанку для саўгасаў праз Белсельтрэст і непасрэдную выдачу акрсельбанкаў, таксама, галоўным чынам, саўгасам, як зусім нязначную суму (62 тыс. руб.).

| Акругі | У проц. да падрахунку выдачы пасяўных крэдытаў пачатковай сеткай | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Саўгасам | Калгасам | Іншым арганізац. і ўстановам | Усяго сац. сэктару | Індывідуальным гаспадар. | Проц. гасп., зволеных ад с.-г. падат., ад агул. сумы індывід. гаспад. |
| Бабруйская . . . . . . | 2 | 22 | 8 | 32 | 68 | 42 |
| Віцебская . . . . . . . | 2 | 18 | 6 | 26 | 74 | 46 |
| Гомельская . . . . . . | 1 | 13 | 12 | 26 | 74 | 41 |
| Мазырская . . . . . . | 2 | 18 | 6 | 26 | 74 | 68 |
| Магілеўская . . . . . | -- | 23 | 7 | 30 | 70 | 59 |
| Менская . . . . . . . | 1 | 15 | 6 | 22 | 78 | 49 |
| Аршанская . . . . . . | — | 23 | 8 | 31 | 69 | 72 |
| Полацкая . . . . . . | 1 | 20 | 9 | 30 | 70 | 47 |
| Усяго па сетцы. | 1 | 19 | 8 | 28 | 72 | 52 |

Асноўнае, што трэба адзначыць з гэтых лічбаў, гэта нізкая роля сацыялістычнага сэктару і, у прыватнасьці, калгасаў па Менскай акрузе, недастатковая па Віцебскай, Гомельскай і Мазырскай, нізкая роля гаспадарак, зволеных ад с.-г. падатку, па акругах Гомельскай і Бабруйскай і празмерна высокая іх роля ў акругах Аршанскай і Мазырскай, што вядзе да зьніжэньня ролі серадняцкіх гаспадарак, да іх недакрэдытаваньня і зьніжэньня іх вытворчых магчымасьцяй і таварнасьці.

Нарэшце важна таксама спыніцца на пытаньні, якой катэгорыяй крэдытаў карысталіся розныя сэктары сельскай гаспадаркі і паасобныя групы пазычнікаў. Тут мы маем наступнае:

| МЭТАВЫЯ ПРЫЗНАЧЭНЬНІ | У проц. да падрахунку крэдытаў па кожным прызначэньні | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | З іх | | | | У т. л. зволеным ад с.-г. падатку (% да ітогу ўсім індыв. гасп.) |
| | | Саўгасаў | Калгасаў | Іншым арганізац. і ўстановам | Індывідуальным гаспадарк. | |
| Насеннаводзтва | 100 | 47 | 11 | 7 | 35 | 44 |
| Травасеяньне | 100 | 13 | 31 | 9 | 47 | 46 |
| Тэхніч. культуры | 100 | — | 15 | 5 | 80 | 44 |
| Зернев. „ | 100 | 27 | 13 | 2 | 58 | 56 |
| Сел.-гасп. машыны | 100 | 8 | 10 | 15 | 67 | 50 |
| Трактары і часткі да іх | 100 | 79 | 21 | — | — | — |
| Рамонт сел.-гасп. машын | 100 | 40 | 15 | 45 | — | — |
| Угнаеньне | 100 | 31 | 26 | 7 | 36 | 45 |
| Рабжывёла | 100 | — | 15 | 1 | 84 | 60 |
| Усяго | 100 | 19 | 16 | 7 | 58 | 52 |

З лічбаў бачым, што выключна па сацыялістычнаму сэктару ідуць крэдыты на трактары і арганізацыю рамонту сел.-гасп. машын і пераважная частка крэдытаў на насеннаводзтва, угнаеньне і травасеяньне, а крэдыты на працоўную жывёлу, тэхнічныя культуры і сел.-гасп. машыны ў большай сваёй частцы ідуць па лініі індывідуальных гаспадарак. Процант гаспадарак, зволеных ад сел.-гасп. падатку (бядняцкіх) ва ўсіх крэдытах больш-менш station stanoўчы, што гаворыць аб роўнамерным іх гаспадарчым разьвіцьці, чаго не наглядалася ў папярэднія гады.

Найбольш бядняцкімі крэдытамі аказаліся крэдыты на працжывёлу і насеньне зерневых.

Асобна прыходзіцца гаварыць аб кантрактацыі. Канчатковых зьвестак аб ёй яшчэ няма. Папярэднія дадзеныя Белсельсаюзу па становішчу на 1/VI-29 г. даюць 80,6 проц. агульнага выкананьня пляну, пры чым па асобных культурах ён наступны: па ільну-валакну—94,3 проц., па ільну-насеньню тэхнічнаму—97,8 проц., па ільну-насеньню даўгунцу—92,9 проц., па каноплях—13,5 проц., па бульбе—58,1 проц., па ячменю піваваранаму—69,6 проц., па аўсу - 79,2 проц., па сэрадэлі—91,3 проц., па канюшыне—63,6 проц., па лубіну—58,4 проц., па табацы—31,3 проц.

Па асобных акругах выкананьне пляну кантрактацыі на гэты тэрмін мела такі выгляд: Бабруйскай—76,0 проц., Віцебскай—87,7 проц., Гомельскай—80,8 проц., Мазырскай—83,3 проц., Магілеўскай—79,7 проц,, Менскай—55,5 проц., Аршанскай—84,5 проц. і Полацкай—90,6 проц. Адсюль бачым, што па ільну плян быў амаль выканан на 1/VI. Вялікае недавыкананьне мелася па зерневым, бульбе і асноўным травам. Можна лічыць, што па гэтых культурах плян і застанецца нявыкананым.

Па пытаньню разьмяшчэньня кантрактацыі па асобных сацыяльных тыпах і групах гаспадарак маюцца папярэднія дадзеныя па 5 акругах (Полацкай, Віцебскай, Мазырскай, Бабруйскай і Гомельскай) па становішчу на 1/VI-1929 г.

Зьвесткі гэтыя ахопліваюць 26189 дагавораў на плошчы 51288 гэкт. па ўсіх культурах, па якіх выдадзена 1335,6 тыс. руб. авансаў, з іх грашыма 820 тыс. руб., а астатнія выдадзены сродкамі вытворчасьці (машынамі, насеньнем і ўгнаеньнем) у парадку ўвязкі вытворчага крэдытаваньня з кантрактацыяй.

| Групы кантрактаўшчыкоў | У %% да ітогу | | | | Сярэдні разьмер плошчы на 1 дагав. у гэктар |
|---|---|---|---|---|---|
| | Складзен. дагавор. | Закантр. плошчы | Усіх выдадзеных авансаў | Грашовых авансаў | |
| Калгасы | 4 | 8 | 10 | 9 | 4,30 |
| Інш. вытвор. аб'яднаньні | 1 | 3 | 3 | 3 | 4,60 |
| Групы паасобных кантрактаўшч. | 33 | 71 | 68 | 66 | 4,20 |
| Паасобн. бедцякі | 28 | 8 | 8 | 10 | 0,53 |
| „ серадцякі | 32 | 9 | 10 | 11 | 0,58 |
| „ заможныя | 2 | 1 | 1 | 1 | 0,86 |
| Усяго | 100 | 100 | 100 | 100 | 1,96 |

Адсюль бачым што: 1) галоўная маса кантрактацыі праведзена сярод бядняцка-серадняцкіх гаспадарак; 2) роля калгасаў і іншых вытворчых аб'яднаньняў у закантрактаванай плошчы, хоць і большая ад ролі іх ва ўсёй пасяўной плошчы, але ўсё-ж недастатковая і разьмер закантрактаванай плошчы на 1 дагавор вельмі малы і не адпавядае разьмерам таварных засеваў у іх; 3) суадносіны ў авансах правільныя, хаця ў заможных яны маглі-б быць і зьменшаны і 4) па серадняцкіх і заможных гаспадарках кантрактавалася далёка ня ўся плошча, прадукцыя з якой складзе таварную частку гэтых гаспадарак.

У канцы неабходна застанавіцца на тым, як сваечасова былі праведзены па сыстэме падрыхтоўчыя мерапрыемствы, пераведзены на месцы сродкі; і як навакол пытаньня крэдытаваньня ў кампанію была сканцэнтравана грамадзкасьць на месцах у сел.-гасп. крэдытных таварыствах.

У першым варыянце плян крэдытаваньня Белсельбанкам быў складзен у снежні м-цы 1928 г., і былі дадзены кантрольныя лічбы акругам, якія ў студзені-лютым далі кантрольныя лічбы таварыствам. Праўда, прапрацоўка гэтых плянаў на месцах у таварыствах была далёка ня ўсюды дастатковай. З сьнежня-ж месяца была дадзена ўсім зьвеньням дырэктыва аб мабілізацыі сродкаў для фінансаваньня гэтай кампаніі. У студзені-лютым было пераведзена акругам і сетцы каля 400 тыс. руб. на каапэраваньне беднаты, з іх 37 тыс. руб. з сродкаў Белсельбанку, 40 тыс. руб. з сродкаў акрсельбанкаў, 64 тыс. руб. з сродкаў пачатковай сеткі, 65 тыс. руб. сродкаў ЦСГБанку і 200 тыс. руб. з дзяржбюджэту. З гэтай сумы 257 тыс. руб. прызначана на калектывізацыю беднаты (набыцьцё лаю ў калгасах), 8 тыс. руб. на каапэраваньне ў малочных таварыствах і рэшта—на каапэраваньне ў сел.-гасп. крэдытных таварыствах. Каапэраваньне ў іншых відах сел.-гасп. каапэрацыі праводзілася за рахунак сродкаў сел.-гасп. каапэрацыі.

Трэба адзначыць, што у шмат якіх мясцох скарыстаньне гэтых сродкаў зацягвалася, і на 1/VI заставалася каля 100 тыс. руб. не скарыстаных гэтых сродкаў, што сьведчыць аб недастаткова ўважлівых да гэтага пытаньня адносінах ня толькі з боку таварыстваў, але і з боку мясцовых устаноў і арганізацыяў і самой беднаты (груп беднаты).

Папярэдняя падрыхтоўка пазычнікаў на пасяўныя крэдыты ў вогуле прайшла здавальняюча. Большасьць с/саветаў сабралі сваечасова заяўкі сялянства на крэдыты, абгаварылі іх сумесна з таварыствамі, СТУ і прадстаўнікамі беднаты і наогул дасканала падрыхтаваліся да справы. Але ў многіх месцах праца гэта была праведзена са спазьненьнем, або без дастатковага ўдзелу беднаты. Часта с/саветы і СТУ падыходзілі да гэтай надта важнай працы нясумленна, мэханічна. Напрыклад, у сьпісы на насеньне і т. п. уносілі ўсе гаспадаркі, нават тыя, якія мелі ў сапраўднасьці сваё насеньне, бяз вучоту фінансавых магчымасьцяй т-ва і клясавых момантаў, сьпісы гэтыя не абгаварваліся на сходах беднаты і т. п.

Задача сел.-гасп. крэдытных таварыстваў—такія памылкі выпраўляць, чаму яны павінны быць заўсёды на чале гэтай працы, скарыстоўваючы астатнія арганізацыі і беднату у дарадчых мэтах. Была-ж частка таварыстваў, якая не ўзяла на сябе гэтай ініцыятывы і цалком пакладалася на с/саветы, і памылкі гэтыя ня былі выпраўлены.

Гэта патрэбна ўлічыць у падрыхтоўцы і правядзеньні кампаніі ў далейшым. Таварыствы павінны актыўна кіраваць падрыхтоўкай кліентуры і накіраваньнем крэдытаў, усебакова скарыстоўваючы веды і вопыт мясцовых арганізацыяў і беднаты.

Не заўсёды памылкі і скажэньньні сваечасова асьвятляліся ў друку, у мэтах іх зьнішчэньня.

Сродкі ўсюды былі пераведзаны на месцы сваечасова. Белсельбанк перавёў звыш 3 млн. руб. яшчэ ў лютым, каля 1,5 млн. руб. у сакавіку і рэшту ў красавіку. У пачатковую сетку асноўная маса сродкаў была накіравана ў сакавіку і частка—у красавіку. Сетка-ж іх рэалізавала ў асноўным у маі і нават чэрвені. Тут нават трэба адзначыць некаторую пасьпешнасць з боку верхніх зьвеньняў, якая з году ў год паўтараецца, пачынаючы ад ЦСВГБанку, бо значная сума сродкаў без патрэбы, з усімі вынікаючымі адсюль адмоўнымі бакамі, знаходзіцца каля 1,5 месяца у пачатковай сетцы бяз руху, або скарыстоўваецца ў іншых някрэдытных апэрацыях.

Наогул трэба прызнаць, што гэтая кампанія прайшла пры значна ўзрослай актыўнасьці насельніцтва да абагуленьня вытворчых працэсаў, палепшаньня мэтадаў гаспадараньня, павялічэньня прадукцыі гаспадаркі і падвышаным попыце на крэдыт, пры недахопе некаторых сродкаў вытворчасьці (ўгнаеньне, канюшына), пры поўным здавальненьні крэдытам сацыялістычнага сэктару і пры дастатковай актыўнасьці і кантролю за ходам працы з боку мясцовых дзяржаўных і грамадзкіх установаў.

Нарэшце, тут мы можам адказаць на пытаньне, які атрымаўся эфэкт ад гэтых укладаньняў у сельскай гаспадарцы, калі скарыстаць лічбы досьледаў ЦСУ БССР з артыкулу т. Пайкіна (Зьвязда № 166 ад 24/VII-29 г.). Яны гавораць, што пасяўная плошча 1929 г. у параўнаньні з 1928 г. узрасла на 2 проц., пры чым па азімых—на 1,1 проц., а па яравых—на 2,15 проц. Так як уздым гэты можа залежаць ад розных прычын, то, каб бачыць уплыў крэдытнай дапамогі, неабходна паглядзець, як узрастала плошча асобна ў гаспадарках, якія не карысталіся дапамогай, і ў тых, якія ёю карысталіся. Лічбы гавораць, што ў першых пашырэньне роўна толькі 0,9 проц., тады як у другіх роўна 3,77 проц. Вельмі важна і тое, што ў гаспадарках, атрымаўшых дапамогу, маецца найбольш буйны тэмп росту плошчы пад інтэнсыўнымі тэхнічнымі культурамі (лён на 13,5%).

Лічбы росту пасяўной плошчы ў гаспадарках, атрымаўшых дапамогу і не атрымаўшых, па розных эканамічных групах гаспадарак такія:

| Групы гасп. па працоўнай жывёле | Уся плошча пасеву | | | Яравыя пасевы | | | Лён | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Ува ўсіх гасп. | У не атрым. дапамогі | У атрым. дапамогу | Ува ўсіх гасп. | У не атрым. дапамогі | У атрым. дапамогу | Ува ўсіх гасп. | У не атрым. дапамогі | У атрым. дапамогу |
| Без працоўн. жывёл. . . | 107,7 | 102,2 | 111,9 | 108,9 | 101,1 | 114,6 | 116,4 | 102,7 | 123,6 |
| З 1 гал. прац. жывёл. . | 101,5 | 100,0 | 103,5 | 101,3 | 99,4 | 103,9 | 108,1 | 98,3 | 114,8 |
| „ 2 „ „ „ . | 101,6 | — | 101,8 | 102,6 | | 103,0 | 102,6 | — | 105,0 |
| „ 3 „ „ „ . | 104,3 | — | 98,0 | 101,5 | — | 102,2 | 110,3 | — | 110,4 |
| „ 4 „ „ „ . | 104,3 | — | | 109,2 | — | | 120,5 | — | |

Адсюль бачым, што дапамога ішла ў напрамку садзейнічаньня найбольшаму гаспадарчаму ўздыму маламоцных сялянскіх гаспадарак у напрамку інтэнсыфікацыі іх гаспадарак. Найбольшая эфэктыўнасць дапамогі выяўляецца таксама ў бядняцкіх групах. У гаспадарках больш заможных, нават і атрымаўшых дапамогу, ня бачым эфэкту, або нават маем адмоўны эфэкт, гэта знаходзіцца, відавочна, у сувязі з вельмі нязначнай дапамогай ім і нявыгодных умовах (высокі процант, кароткі тэрмін і г. д.).

Цяпер спынімся на тым, якія задачы стаяць перад сыстэмай ў адносінах правядзеньня азімай пасеўкампаніі і як яна падрыхтавалася да іх выкананьня. Асноўныя заданьні ўраду сельскай гаспадарцы ў гэту кампанію наступныя:

1. Пашырыць плошчу азімых пасеваў, праз распашку аблогаў, выганаў і г. д., у саўгасах на 2,6 проц., у калгасах на 64,2 проц. і ў паасобных гаспадарках на 1,04 проц.

2. Павялічыць ураджайнасьць азімых, праз правядзеньне агрыкультурных мерапрыемстваў, контрактацыю і г. д., у саўгасах на 20 проц., у калгасах—на 12 проц. і ў паасобных гаспадарках—на 7 проц.

3. Узмацніць сацыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі, праз узбуйненьне старых і арганізацыю новых калгасаў, арганізацыю іншых вытворчых аб'яднаньняў, здавальненьне іх сродкамі вытворчасьці, крэдытамі і г. д.

Для ажыцьяўленьня паказаных задач плянамі азімай пасеўкампаніі мяркуецца нарыхтаваць гатунковага насеньня 30.200 цэнтнэраў, пашырыць насеннаводзтва ў калгасах і саўгасах да 16.500 гэкт., нарыхтаваць с.-г. машын і прыладаў на 2.112 тыс. руб., ачысьціць усё насеньне ў саўгасах і калгасах і 60 проц. у сялянскіх гаспадарках, завапнаваць 25 тыс. гэкт. пахаці, пашырыць шматпалёвы севазварот на 400 тыс. гэкт. у бягучым годзе, залажыць групавых садоў у пасёлках і калектывах на плошчы 2.450 гэкт., нарыхтаваць штучных угнаеньняў на суму 1.140 тыс. руб. і правесьці контрактацыю азімых пасеваў на плошчы 30 тыс. гэктар.

Агульная каштоўнасьць усіх гэтых мерапрыемстваў падлічваецца ў суме 5.400 тыс. руб., з якіх каля 2 млн. руб. павінна ўлажыць само насельніцтва, а 3.254 тыс. руб. мяркуецца пакрыць па лініі сел.-гасп. крэдыту. Крэдытныя сродкі разьмяркоўваюцца па наступных мерапрыемствах: працоўная жывёла—242 тыс. руб., сел.-гасп. машыны—1.600 тыс. руб., гатунковае насеннаводзтва 187 т. руб., штучнае ўгнаеньне—500 тыс. руб., пладаводзтва 250 тыс. руб., вапнаваньне – 270 тыс. руб., зерневыя культуры 100 тыс. руб. і сіласаваньне—105 тыс. руб. Адсюль бачым, што крэдыты на мерапрыемствы садзейнічаньня ўздыму ураджайнасьці складаюць 66 проц. пляну.

На крэдытаваньне сацыялістычнага сэктару запраэктавана накіраваць ня менш 60 проц. пляну, з іх для крэдытаваньня калгасаў 1 млн. руб., або 31 проц. пляну. Разам з гэтым, на с.-г. крэдытныя т-вы падае задача пры накіраваньні крэдытаў, у першую чаргу, здавальняць заяўкі абагуленага сэктару. Асаблівая ўвага сел. гасп. крэдытных т-ваў павінна быць зьвернута на крэдытаваньне нанова арганізоўваемых калгасаў і беднаты з тым, каб задаволіць іх сродкамі вытворчасьці і даць магчымасьць засеяць ўсю сваю плошчу.

Пераважная частка крэдытных сродкаў ужо пераведзена ў акругу і на месца ў сел.-гасп. крэд. т-вы.

Цяпер посьпех ўсіх гэтых мерапрыемстваў будзе залежаць ад таго, наколькі с.-г. крэд. т-вы, разам з усімі мясцовымі ўстановамі і арганізацыямі, з мясцовай грамадзкасьцю змогуць згрупаваць навокал гэтых задач бядняцка-серадняцкія массы сялянства, актывізаваць іх волю да правядзеньня гэтых мерапрыемстваў, да мабілізацыі іх сродкаў на гэта і правільна скарыстаць рэсурсы дзяржавы, на карысьць уздыму сельскай гаспадаркі наогул і сацыялістычнага яе сэктару у асаблівасьці.

---

Аўрамчык

# Стан сампрамкаапэрацыі ў Менскай і Аршанскай акругах

Саматужна-прамысловая каапэрацыя ў Менскай і Аршанскай акругах пачала разьвівацца з 1926 г.

Навіна калектыўнай работы, процідзеяньне з боку больш заможнай часткі саматужнікаў, невыстарчальнасьць крэдыту, адсутнасьць плянавасьці забесьпячэньня і збыту—вось прычыны, якія ў першы час перашкаджалі рабоце па аб'яднаньні саматужнікаў у арцелі. Але потым некаторыя перавагі ў сэнсе атрыманьня сырцу, дапамога з боку дзяржавы, падатковыя ільготы пасунулі наперад справу калектывізацыі.

На 1/X-1927 г. мы ўжо мелі арцеляй, прынятых у саюз па Менскай акрузе, 53 з 755 сябрамі, пры чым на долю аднаго Менску прыходзілася 34 арцелі з 357 сяб., местачковых арцеляй было 11 з 222 сяб. і вясковых 8 арцеляй з 139 сяб. Гарадзкія арцелі аб'ядналі, галоўным чынам, краўцоў, шаўцоў і панчошнікаў (17 арцеляй з 253 сяб.); у местачковых і вясковых арцелях пераважнае месца займаў промысел па апрацоўцы дрэва. У Аршанскай акрузе на тое-ж чысло лічылася ўсяго 3 арц. з 16 сябрамі (2 арцелі гарадзкіх і 1 вясковая).

Каапэраваньне ў арцелі закранула адных толькі шаўцоў. За 1926-27 г. колькасьць арцеляй значна павялічылася. На 1/X-28 г. па Менскай акрузе ўжо налічвалася 122 арцелі з 2.591 сябрам і 283 вучнямі (гарадзкіх—55 арцеляй, у іх—1.376 сяб.), местачковых—53 арцелі—811 сяб. і вясковых—14 арц.—404 сяб. Кравецкі, шавецкі і панчошны промыслы паранейшаму займаюць пераважнае становішча, у мястэчках лік аб'яднаных саматужнікаў ўзрос, галоўным чынам, за кошт тых-жа краўцоў і шаўцоў; у вёсцы ўзьнікае шэраг новых промыслаў (керамічны, ткацкі, валяльны), але ўсё-ж апрацоўка дрэва займае першае месца.

У Аршанскай акрузе лік арцеляй за той-жа год павялічыўся з 3 да 22 арцеляй з 365 сябрамі і 28 вучнямі (гарадзкіх арцеляй 8 з 125 сябрамі), местачковых—10 арцеляй—77 сяб., вясковых—4 з 163 сябрамі.

Разьмеркаваньне па промыслах такое-ж самае, як і ў Менскай акрузе.

На першае паўгодзьдзе 1928-29 г. аб'яднаньне саматужнікаў ідзе ўзмоцненым тэмпам. На 1/IV-29 г. па Менскай акрузе налічваецца ўжо ў сыстэме сампрамкаапэрацыі 162 арцелі з 3.345 сябрамі і 381 вучнем (гарадзкіх—74 арцелі з 1.858 сябрамі, местачковых 61 арцель з 948 сяб. і вясковых—27 арц. з 539 сябрамі), па Аршанскай акрузе 62 арцелі, у іх 791 сяб. і 76 вучняў.

Каапэраваньне саматужнікаў ідзе і па другой лініі, па лініі крэдытна-прамысловых таварыстваў, якія абслугоўваюць сваіх сяброў (паасобных неарганізаваных саматужнікаў) сырцом і крэдытам. Па Менскай акрузе на 1/I-29 г. налічвалася 16 таварыстваў з 5.444 сябрамі і ў Аршанскай акрузе—9 таварыстваў з 4.113 сябрамі.

Стыхійны рост арцеляй, невыстарчальнае ўсё-ж такі кіраўніцтва з боку Белсампрамсаюзу нізавой сеткаю мелі свае вынікі:

1. Узьнік цэлы шэраг дробных арцеляй, якія ня маюць пэрспэктыў для далейшага разьвіцьця.

2. У адным і тым жа паселішчы роўналежна існавалі дробныя арцелі аднаго і таго-ж промыслу.

3. Кіраўнікі арцеляй не адпавядалі свайму прызначэньню.

4. У склад арцеляй пралез зусім чужы элемэнт, які часта меў уплыў на справы самой арцелі, скарыстоўваючы сваё становішча, як сябра арцелі, для сваіх карысных мэт.

Цяпер зьвернута на гэтыя недахваты выключная ўвага. Стыхійнаму росту арцеляй пакладзены канец, толькі пры вызначэньні мэтазгоднасьці арганізацыі тае або іншай арцелі яна прымае сваё афармленьне. Менска-Аршанскае аддзяленьне занялося рэарганізацыяй існуючай сеткі арцеляй. Побач існаваўшыя дробныя арцелі аднаго промыслу аб'яднаюцца ў адну буйную, больш жыцьцёвую арцель. Ужываюцца ўсе меры да мэханізацыі вытворчасьці і паляпшэньня якасьці прадукцыі, зьніжэньня накладных выдаткаў і кошту прадукцыі. Адначасова ідзе праверка сацыяльнага складу арцеляй. „Сампрамкаапэрацыя—для працоўнай беднаты"—вось лёзунг, ад якога адступленьня не павінна быць і ня будзе.

Калі да гэтага часу рост у сыстэме сампрамкаапэрацыі ішоў за лік аб'яднаньняў краўцоў, шаўцоў, панчошнікаў і інш., што працуюць на дэфіцытным сырцы, то цяпер кантрольныя лічбы на 1929-30 г. прадугледжваюць разьвіцьцё промыслаў з недэфіцытным сырцом (так, напрыклад, па Менскай акрузе на 1/X-1930 г. мяркуецца ўцягнуць у керамічны промысел да 330 чал., супроць 76 чал. на 1/IV 29 г., у смалакурны-сьпіртапарашковы—да 1.000 чал., супроць 100 на 1/IV-29 г., у дрэваапрацоўчы—да 600 чал., супроць 300. У такой-жа меры мяркуецца пашырыць гэтыя вытворчасьці і ў Аршанскай акрузе. У далейшым усю работу па арганізацыі новых арцеляй Менска-Аршанскае аддзяленьне перакідае, галоўным чынам, у вёску. Пашырэньне керамічнага, смалакурнага, дрэваапрацоўчага, ткацкага і інш. промыслаў, арганізацыя новых промыслаў на недэфіцытным сырцы ўцягне значную колькасьць вясковай беднаты.

Для ўцягненьня гарадзкой і местачковай беднаты, і асабліва апошняй у зьвязку з упарадкаваньнем мястэчак, прадугледжваецца некаторае пашырэньне шавецка-кравецкага і панчошна-трыкатажнага промыслу; апошні намячаецца насадзіць і сярод бяднейшага насельніцтва вёскі.

# НА МЕСЦАХ

С. Фрэнкель

## Пра культ-бытавую працу Мен. ЦРК

Гэты год зьяўляецца пераломным годам у працы каапэратыву ў сэнсе культ-бытавога абслугоўваньня пайнікаў. Вельмі значнае месца займае праца па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы працаўнікоў прылаўку і каапэрацыйнага актыву. Калі ў мінулым годзе мы ў гэтай галіне займаліся саматужніцтвам (існавалі гурткі, якія амаль не працавалі), дык сёлета мы перайшлі на арганізацыю сталых школ.

Працавалі гэтыя школы пры добрых школьных умовах. Быў створан сталы расклад заняткаў у школах, даваліся заданьні на дом і г. д. Гэтыя дробязі маюць сваё вялікае значэньне.

Яшчэ працавалі ў нас 8-месячныя курсы па падвышэньню кваліфікацыі працаўнікоў прылаўку. Скончылі гэтыя курсы 48 чалавек.

Таксама працавала школа для каапэрацыйнага актыву, у якой займаліся ўпаўнаважаныя ЦРК, сябры крамачных камісій і г. д. Гэту школу скончылі 33 чалавекі.

Вельмі сур'ёзным пытаньнем зьяўляецца адсутнічаньне ў Менску кваліфікаваных працаўнікоў прылаўку. Вось чаму праўленьнем былі арганізаваны курсы па перакваліфікацыі беспрацоўных. 6 гадзін яны працавалі ў крамах на практыцы і 3 гадзіны на тэарэтычнай вучобе. Трэба сказаць, што шмат таварышаў добра працавалі і вучыліся. Па сканчэньні вучобы яны вышлі добрымі прадаўцамі. Адно трэба адзначыць, што амаль усе дрэнна падрыхтаваны палітычна. Гэтыя курсы скончыла 90 чалавек.

З адзначанага можна зрабіць вынікі, што сталыя школы ў сучасны момант зьяўляюцца неабходнымі.

У галіне масавай працы апраўдалі сябе праведзеныя раённыя сходы пайнікаў. На гэтыя сходы зьяўляюцца сапраўдныя пакупнікі жонкі рабочых. Гэтымі сходамі мы ўцягваем шырокія колы ў практычную працу каапэрацыі. На іх растлумачваецца, з аднаго боку, аб мэтах і задачах каапэрацыі, а з другога, загадчыкі магазынаў робяць справаздачы аб працы сваіх крамаў, пайнікі крытыкуюць іх працу і даюць шмат практычных прапановаў, некаторыя з іх праводзіліся ў жыцьцё праўленьнем. Другі від масавае працы, які апраўдаў сябе, гэта каапэрацыйныя віктарыны з прэміямі за лепшыя адказы, што праводзіліся па некаторых клюбах. Але лепш за усё праходзяць вечары пытаньняў і адказаў аб працы ЦРК, аб забясьпечаньні рабочага і г. д. Тут мы наглядаем вялікую зацікаўленасьць практычнай працай ЦРК.

У далейшым неабходна будзе, акрамя гэтых пытаньняў, растлумачыць і выслухаць думку аб пяцігадовым пляне спажывецкай каапэрацыі, а таксама аб пяцігодцы і аб кантрольных лічбах на 1929-30 год нашага МЦРК.

Як добрае мерапрыемства, апраўдалі сябе ў вайсковых частках каапэрацыйныя кірмашы. Да гэтага праводзілася падрыхтоўчая праца: чырвонаармейцы чытаюць каапэрацыйную літаратуру, а пасьля праводзіцца гэты кірмаш. За лепшыя адказы даюцца прэміі. У рабочых клюбах гэта праводзіцца туга, бо рабочыя больш цікавяцца практычнай працай МЦРК, чым тэарэтычнымі пытаньнямі.

Дрэнна абстаіць справа з каапэрацыйна-масавай працай у сталоўках за выключэньнем аднаго наладжанага вечару моладзі. За чашкай чаю ў

сталоўках мы нічога не праводзілі, і на гэта неабходна зьвярнуць увагу.

Па клюбах мы яшчэ ня маем сыстэматычнай працы, акрамя кампанейскай; у гэтым годзе неабходна будзе згуртаваць каапэрацыйны актыў пры кожным клюбе для правядзеньня сыстэматычнай каапэрацыйнай працы. (Дзяжурства, справачная і масавая праца і г. д.).

Трэба таксама ўрэгуляваць узаемаадносіны з прафарганізацыямі, асабліва з нізавымі. Да гэтага часу многія фабзаўмясцкомы ніяк ня хочуць зразумець, што каапэрацыйная праца зьяўляецца такой-жа самай часткай штодзённай працы, як і іншая.

Трэба таксама зьвярнуць увагу на ўцягненьне піянэраў у практычную масавую працу. Каапэрацыйнаму актыву трэба ўзяцца за арганізацыю школьнай каапэрацыі, заснаванай на самадзейнасьці вучняў.

Вельмі вялікае значэньне мае для нас тое, што ў гэтым годзе мы ўпяршыню ўзяліся за працу з кнігай. У кастрычніку быў адчынены кніжны магазын, а ў сучасны момант яшчэ маем 4 кіёскі і 3 кнiганошы, якія абслугоўваюць акраіны гораду і прадпрыемствы.

Зварот па продажы кніжак (без канцэлярскіх прыладаў) дасягнуў за 9 месяцаў 2^.807 рублёў. Разгорнута праца па продажы радыё-прыладаў, зварот ад якіх складае ад сакавіка 13.183 рублі. Таксама побач з музычнымі прыладамі і спортприладамі у магазынах маецца спэцадзеньне.

На наступны год праэктуецца зварот ад продажу кніжак ня менш як на 50.000 рублёў і па радыё-100.000 руб. Як бачым, тэмп вялікі.

Па бытавой працы ў гэтым годзе мы маем значны зрух. Вельмі добра працуе магазын „Маці і Дзіця", звароты якога ўзрасьлі з 131.959 рублёў за 1927-28 год да 344.852 руб. ў 1928/29 годзе (толькі за $^{3}/_{4}$ году). Круглы год працуе дзіцячы сад на 46 дзяцей, працуе дзіцячая пляцоўка на 50 дзяцей, накіраваны ў дом адпачынку 47 пайнікаў, працуюць дзіцячыя ясьлі на 20 дзяцей.

Агульны рост культ-бытавога фонду складаецца з такіх лічбаў: у 1927-28 годзе — 15.496 руб. і ў 1928-29 годзе — 28,844 руб.. Лічбы кажуць за сябе. Але гэтага ўсё-ж недастаткова, трэба ўцягнуць у гэту справу сродкі насельніцтва, аб'яднацца з жылкаапэрацыяй, і тады з большым эфэктам— лепей і больш будзе задаволен лік пайнікаў.

Вакол культ-бытавой працы яшчэ няма грамадзкай думкі, якую неабходна стварыць культкаапэрацыйнаму актыву для правядзеньня гэтай вельмі вялікае працы, чаго патрабуе ад каапэрацыі культурная рэвалюцыя.

---

А—р

## Сны мазырскіх рахункаводаў

„И снится им сладкорадостный сон"...

І чаго часам чалавеку не сасьніцца! Чаго не навярзецца за ноч! Іншы раз у сне можаш бачыць тое, чаго сапраўды ў жыцьці няма і ня будзе. Ведама, сонны чалавек— галава вольная, клапот жыцьцёвых няма, дык тады і сьні, што набрыдзе.

Некалі былі спэцыяльныя выданьні соньнікаў; каштавалі яны ня вельмі дорага; таму многія, хто хранічна хварэў на сны, куплялі іх сабе і адгадвалі тое, што бачылі ноччу.

Бывалі выпадкі, што сон спраўджваўся па соньніку (хаця ён зусім па другому спраўджваўся)—тады ўжо пачыналі верыць у моц соньнікаў.

За апошнія гады пахіснулася вера ў соньнікі: паразумнеў народ, а выдавецтвы спынілі выдаваць іх. Ад гэтага горай ці лепей—ня ведаю. Ведаю толькі адно, каб хоць тыя ранейшыя соньнікі трапілі да мазырскіх рахункаводаў—дык саўсім другое можа-б

вышла з сноў. Можа-б ён разгадаў іх, і рахункаводы даўно супакоіліся-б.

Усякая справа мае свае прычыны, мае свой пачатак, і... мае свой канец.

Так і сны мазырскіх рахункаводаў маюць сваю прычыну. Увосень, у доўгія вечары мінулае восені, распачалося ўсё гэта. Доўгімі, цягучымі ішлі бязьзьменныя вечар за вечарам.

І тады, от як раз у гэтыя вечары, Мазырскае аддзяленьне Гомельскага райсаюзу спажывецкіх т-ваў пісала ліст да сваіх рахункаводаў.

«...Так і так—гаварылася ў ім—мы спадзяёмся, штозаклік выканацьсправу сваю ў час (а можа хто зможа і раней часу) будзе пачуты... Тыя, хто прышле ў ліку першых добра зробленую справаздачу, будзе прэм'явацца.

Гэты невялікі ліст і быў прычынаю тых мараў, якімі хварэюць яшчэ і цяпер рахункаводы Мазырскага аддзяленьня спажывецкіх т-ваў.

Ночы, доўгія асеньнія ночы, праходзілі для іх неўзаметкі (за працаю, якая патрабуе напружаньня, час заўсёды праходзіць хутчэй).

— Лёг бы ты, сынок, спаць, позна ўжо сёньня,—праспаўшыся гаварыла часам маці да сына.

Але дзе той сон пойдзе ў галаву.

Не падацца суседу, не застацца апошнім, вось што заахвочвала да працы, вось што не давала супакою. А прэмія, якую абяцала Мазырскае аддзяленьне, будзе як сьведка мае перамогі, як узнагарода за бяссоныя асеньнія ночы...

І раней часу „кур'ерскім“ пасыпаліся справаздачы ў Мазырскае аддзяленьне...

Там іх пасартавалі, паклалі адно на другое па чарзе, каб было больш правільней, праверылі пасьля ў такім жа парадку і... склалі ў шафу.

А рахункаводы, выканаўшы свой абавязак, пасьля доўгіх бяссонных начэй, зноў увайшлі ў нармальную каляіну жыцьця: пачалі рэгулярна зьяўляцца на працу, пачалі рэгулярна класьціся спаць...

Ад таго часу і пачаліся сны мазырскіх рахункаводаў. Сны, якія па сваёй цікавасьці не давалі супакою ні ноччу, ні днём. Сусед ня ведаў аб часе адсылкі справаздачы сваім суседам—таму і цікавасьць брала кожнага яшчэ большая.

— Хто першы, хто пераможца?— вось якія думкі займалі галовы.

Праходзяць дні, тыдні, месяцы, а... вынікаў няма і няма. І толькі калі ні калі, спаткаўшыся, рахункаводы, гутарачы пра іншыя справы, пыталі адзін у другога:

— Ну, ня чуў-жа ты нічога пра вынікі?

І адказам на такія запытаньні было пацісканьне плячыма з такім выглядам на твары, які казаў: ніколі не напамінай больш пра даўно забытую справу, хай супакоіцца тваё сэрца, як супакоілася тых, хто абяцаў прэміі.

Цяпер у Мазырскіх рахункаводаў толькі адзін выхад спагнаць злосьць, адплаціць — паслаць сёлета справаздачы з падвойным спазьненьнем.

---

**Макар Валацуга**

# Па каапэрацыйных ухабах

*(Дарожныя нататкі Макара Валацугі)*

... А ногі ўсё-ж такі чуваць—прайшоў шматавата. Каб здаецца ехаў хто ды падвёз, дык бы інačай было. А то—ох-ох-хо!

Хоць ногі баляць, але ў галаве думкі бродзяць. Мне цяпер ідучы думаецца аб тым, хто ды каго пераганіць у растратах. Ці Брадзецкае т-ва, ці Дзянісаўскае, ці Старобінскае, ці Чыжавецкае? Пакуль што нельга сказаць. Раней было перагнала Брадзецкае т-ва (Бярэзінскі раён). Кра-

мар Сакоў Зьміцер дагнаў да 437 рублёў (так выкліканы ім-жа інспэктар устанавіў), тады як у Дзянісаўскім т-ве (Крупскага раёну) „друг“ Зьмітры па працы Кляшчонак растраціў толькі на толькі—200 рублёў.

Пасьля-ж Чыжавецкае т-ва пачало даганяць... Азік Рухавец—ён у нас малайчына! дайшоў-быў да... 150 р., а пасьля як пачаў, як пачаў, дык 311 рублёў... Што вы думалі?—перабраў. Цэлых 311! Так што і ён не падкачаў.

— Трэба ўмець,—кажа Рухавец, і ён умее.

— Тут, калі што якое, калі трэба, дык нават і ў краме трэба заперціся. Непатрэбна сароміцца... Тут патрэбна злагада з начальствам і ўсё такое. Раз патрэбна, дык я грудзьдзю пастаю, а адкаркаю, так сказаць.

І ён адкаркоўвае, кажучы праз дзьверы да чаргі:

— Мы тут рахункі падвэдзім, так што не напірайце пакуль што на дзьверы.

І цяпер, калі прыгледзецца, хто ды каго выпярэджвае, дык трэба сказаць, што Старобінскае раённае т-ва бярэ верх. Там толькі за адзін студзень м-ц растрацілі 2000 рублёў капейка ў капейку.

— Нічога ня зробіш, як той казаў,—апраўдваюцца старобінцы-растратчыкі—іначай немагчыма. От цябе так і цягне магнасьць, от так і цягне. То там цукерак зьясі, то папяросу закурыш, то... чырвоную галоўку абатрэш, то там... мала што там! Што гэта мала патрэб у чалавека? Паколькі ты кругом, можна сказаць, у тавары, дык дзіва, што патрэбы будуць. А паколькі патрэбы, пастолькі і растраты. Не абойдзеш іх, калі яшчэ з чулым сэрцам. А калі яшчэ каторы, скажам, жанаты, дык тут зусім другое. Тут ты ўжо не адзін, а цэлая сям'я. Патрэбна ўлічваць усё-ж.

Дык от я іду, іду лесам. Ціхата ў ім, каб то што шаснула, каб што скалыхнула. А калі ты адзін, калі нідзе нішто не шасьне--ото ўжо выгада. Думак у тваёй галаве цэлая плойма. Так і круцяцца, так і ганяюцца адна за другою клубком. Я ўспамінаю Радняўскае аддзяленьне Касьцюкоўскага раёну, крамара Тараса Турпакова. Ён любіць адбіраць лепшыя лыкі і не прадаваць іх „для ўсіх“.

— Што гэта, хіба ўсе пайшчыкі роўныя? Сярод іх ёсьць і знаёмыя і не знаёмыя. Ніколі яны роўнымі ня будуць.

А далей мне ўжо ўспамінаецца Буцэвіцкае каапэрацыйнае аддзяленьне на Заслаўшчыне. Там мука з мяшкамі валяецца на праходзе, а па іх топчуцца нагамі.

То мне чуецца хрыплы гук гучнагаварыцеля на Старобіншчыне ў Рэдацэнскім т-ве.

— От ані нічога ня поймеш, хоць ты размудрыся. А праўленьне т-ва разважае, што яно так і павінна быць. Праўленьне думае, што ўсе гучнагаварыцелі так хрыпяць, дык няма тут чаго і рамантаваць.

Бязумоўна, рэвізійная камісія спрачаецца. Яна кажа: У Менску мы чулі, дык там, як мае быць, чуваць голас выразьлівы такі.

Але праўленьне ўсё-ж на сваім стаіць.

— Пакуль, кажуць праўленцы, мы самі не пабудзем у Менску і не пачуем, датуль не паверым і ня будзем нічога правіць.

Невядома, што з усяго гэтага будзе.

І пад такімі думкамі я падыходжу да... Куды-б вы думалі я падыходжу? Аказваецца, я заблудзіў. Я падыходжу не да Узьдзенскага т-ва, а да... Шацкага. Я, ўжо здалёк бачу яго, як мае быць, і мне цяпер ня вельмі хочацца туды ісьці. Там нядаўна былі перавыбары, дык я ні з кім незнаёмы. У часе перавыбараў у справаздачы Шацкае т-ва „адлічылася“ самаварамі. Яно закупіла і пастаўляла на паліцы медныя самавары.

— Мала каму трэба самавар. Прыдзе чалавек у краму—купіць, а пасьля як знойдзе...

Яно яшчэ „адлічылася“ і жалезнымі ложкамі для спаньня.

— У такіх ложках,—разважала праўленьне,—клапы ніколі не завядуцца, дык от няхай купляюць каму трэба, хай з цемры вылазяць.

А тым часам нарогі выйшлі, дык на перавыбарах узганашыліся за гэту справу. Таксама і з мануфактураю клопат. За ўсё клопат. Адкуль ужо і гэтага клопату набярэшся на ўсякую дробязь. Адным словам, была маленькая „няўвязка“: на зіму быў закуплен паркаль, а на лета—мультан.

Дзіўныя, хіба гэта не адпавядае народнай прыказцы: „Рыхтуй зімою калёсы, а летам сані“.

І праўленьне на гэтым тады выкручвалася.

Я зьвярнуў у бок Шацка і накіраваўся да Пухавіцкага т-ва. Ужо хутка вечарэе, але цяпер відныя ночы, так што няма чаго баяцца Сініцкіх з Мазыршчыны. Іх цэлых трое. Тых Сініцкіх, што ў Камаровіцкім спажывецкім т-ве зрывалі загатоўку сыравіны.

Я іду, і мне ўспамінаецца Ленінскае с.-г. крэдытнае т-ва на Случчыне, Пупічынскае спажывецкае на Койданаўшчыне, Шацілаўскае на Парэччыне (Бабруйшчына) і... У мяне проста такі кругом ідзе галава.

У Ленінскім сала сапсавалася, збуцьвела. І тады, як яно збуцьвела, дык набыло зусім другі смак. У Пупічынскім т-ве прыпасы, што для яды, разам з сырцом скурак ляжаць. Дык тут-жа хоць крыўды менш: няма памяшканьня. А ў Шацілаўскім зусім другое.

У кожнага сваё.

За тры дні сьвята ў Шацілаўскім сяляне вёскі Гырковічаў выпілі, па крайняй меры, на 2.447рублёў.

Ну то што тут скажаш? У кожнага, я-ж кажу, сваё.

І я зноў іду, сьпяшаюся.

— Усё-ж, Сіроцінскае спажывецкае т-ва,—разважаю я, гледзячы сабе пад ногі,—выклікала Каменскае (Бешанковіцкі раён) на сацыялістычнае спаборніцтва. Яно сказала: „У каго будзе лепшае абслугоўваньне спажыўца? Лепшая гігіена? Меншыя ўтрускі? Дзешавейшыя тавары? Большая эканомія? і г. д.

Але Каменскае, што-б вы думалі? ні слуху, ні духу аб сабе не дало. Ну што ты будзеш рабіць з ім. Яно, напэўна, разважае нейдзе само сабе:

„Спаборніцтвуй, калі хочаш, я магу і бяз гэтага абыйсьціся. Жылі да гэтага часу, будзем жыць і цяпер. Так што няма чаго там вельмі выстаўляцца“.

І я зноў мераю шлях сваімі крокамі мэтравае даўжыні. Падбіўся, можна сказаць. Так што і ў нагах ужо нешта пачало ныць, шчымець. Але вячэрнім халадком добра ісьці. Прахладна сабе!

Хоць да Пухавіч яшчэ далёка, але можа як да раніцы забрыду.

— Ото ўжо выгада, думаю, ідучы, Прылепскім каапэратарам, Астрашыцка-Гарадзецкага раёну. Калі, скажам, табе што трэба, дык каб ня ехаць за блізкі сьвет, купляй ў прыватніка, ды прадай Прадай ды зноў купляй. Што гэта ня ўсёроўна тавар. Канечна, насенныя буракі, што купілі яны ў прыватнікаў, гэтак, як і Ленінскія каапэратары (Барысаўшчына), непаўзыходзілі. Але якая ім справа. Ім галоўнае абы было што прадаць. І яны прадаюць.

Канечна, бываюць „выпадкі“, што няма мануфактуры, няма мукі, няма жалеза Дык калі на тое пайшло... Жалеза—ня вельмі вялікі рахунак вазіць.

— Каліяно, кажуць каапэратары,—цяжкае вельмі. Шмат на воз не паложыш. А за падводу плаціць трэба ўсёроўна. То нашто там з ім вельмі цацкацца! Ад яго вялікага прыбытку не нажывеш.

І я зноў, сплёўваючы, разважаю. Цяпер я ўжо разважаю пра Круглянскае спажывецкае, на Аршаншчыне, пра Целяшову Мар'ю.

— Ой, яна вельмі ўжо шмат адпускае „сапожнага“ матар'ялу Архоўскаму Сымону. Яно, хаця, канечна, паколькі ён зьяўляецца шаўцом ды паколькі да гэтага зьяўляецца яе мужам, дык тут яно няма ані якага дзіва.

Цяпер ужо зьмерклася, пахаладнела добра такі. Але я не адпачываю яшчэ пакуль што. Мне цяпер у часе такой прахалоды думаецца пра Уваравіцкіх (Гомельшчына) начных вартаўнікоў. Пра 4 вартаўнікоў. Мне думаецца, як гэта яны трываюць цэлую ноч, ды бывае яшчэ зімовую, марозную. Ды бывае тавары прывязуць ноччу, ды пакінуць іх аж да 10 гадзін раніцы. І тады не адступіся ад іх. Стой і глядзі. І без выхадных дзён і за 22 рублі ў месяц. Гэта ўсё-ж такі, мне думаецца, нешта значыць.

І вот тут я чхнуў. Цяпер мне думаецца пра Варкалаўскую краму (Грэскі раён). Мне нават ня то што думаецца аб ёй, а боязна за яе. Як гэта я ўвайду ў краму, калі прыду да іх. У іх там вельмі парог высокі, так што можна вывіхнуць нагу.

Ой ды ці мала што ўзьвярзецца, уздумаецца?

Паволі змрок апускаецца на зямлю. Зараз будзе, хоць пальцам у вока калі. А праз гадзіну павінен месяц узыходзіць—павіднее трохі, а яшчэ трохі счакаўшы, сонца ўзыйдзе. Насгане новы дзень, настануць новыя думкі і новыя ўражаньні.

**Толькі ў краіне Саветаў, дзе каапэрацыя расьце і дзейнічае на грунце дыктатуры пралетарыяту, яна сапраўды зьяўляецца шляхам да сацыялізму. (З адозвы Выканкому Камінтэрну)**

**Перабудаваць сельскую гаспадарку, стварыць новы быт дапаможа нам сацыялістычнае спаборніцтва. Кожны каапэратыў, кожны калектыў, кожная вёска павінны зрабіцца актыўнымі ўдзельнікамі сацыялістычнага спаборніцтва!**

# БІБЛІОГРАФІЯ

**А. Рыбакоў. „Машынавыя таварыствы“. Выданьне БДВ, тыраж 7000 экз., старонак 108,** *цана 3о кап. 1929 г.*

Аб тэй карысьці, якую дае машына чалавеку, гаварыць ня прыходзіцца. Карысьць яе кожны ведае, хаця гісторыя ведае такія выпадкі, калі людзі выступалі супроць увядзеньня машын, дзе яны прыходзілі на палёгку чалавеку.

Усе тыя выгады, якія дае ўвядзеньне машыны, прыводзіць у сваёй кніжцы А. Рыбакоў, падмацоўваючы гэта лічбамі ўраджаю тых краін, дзе апрацоўка адбываецца машынамі, і тых, дзе—рукамі.

Бязумоўна, аднаму складаную машыну набыць ня так лёгка, хоць бы гаспадар і ведаў яе карысьць. У такіх выпадках на падмогу зьяўляецца машынавае таварыства. Але што гэта за таварыствы і як іх арганізаваць? Вось аб гэтым і растлумачваецца ў кніжцы, вось гэтаму і адведзена шмат месца ў ёй.

Даецца цэлы шэраг малюнкаў машын, апісваецца іх карысьць. Ёсьць тлумачэньні, як і якую плату павінна ўстанаўляць таварыства на машыны, каб ня мець расходаў і ня браць залішне з сяброў т-ва.

У канцы кніжкі дадзен дадатак, у якім мы знаходзім, як пісаць заявы аб арганізацыі таварыства і як складаць яго каштарыс.

Усім зацікаўленым асобам, якія хочуць ведаць карысьць таварыства, якія самі хочуць быць яго ўдзельнікамі, раім прачытаць гэту кніжку. Па мове і цане кніжка даступна кожнаму.

**А. В.—к.**

---

**А. Целишев. „Как две деревни стали колхозами“. Выданьне „Кнігасаюзу“ Масква. Тыраж 25.000 экз.** *Цана 15 кап. старонак 52. 1929 год.*

Перабудаваць сельскую гаспадарку з дробнай ў больш буйную, замяніць старую форму апрацоўкі зямлі сохамі новаю формаю апрацоўкі машынамі, падвысіць ураджайнасьць—вось галоўныя задачы перабудовы гаспадаркі.

У вышэйпамянёнай кніжцы аўтар і дае ў форме нарысу апісаньне таго, як дзьве вёскі Самарскае акругі--Прэабражэнка і Багузкае перайшлі, пад непасрэдным удзелам трактарнае калёны, у калгасы.

Апавядаецца, якія перашкоды, хібы і няўдачы прышлося напаткаць трактарнай калёне ў пачатку яе працы. Толькі ўпартым і настойлівым намаганьнем удалося дабіцца тых вынікаў, што дзьве вёскі, з лікам 195 гаспадарак, ва ўладаньні якіх знаходзілася 3.300 гэктараў зямлі, перайшлі на калектыўную апрацоўку яе, утварыўшы два калгасы (Гігант № 1 і Гігант № 2).

Напісана кніжка вельмі жыва, падзелена на разьдзелы. Прыводзяцца для большае нагляднасьці табліцы з падлічэньнямі.

Праўда, у такой невялічкай кніжцы нельга ахапіць усяго таго, чым могуць пахваліцца калгасы, але і гэта ўжо дае кожнаму ўяўленьне аб розьніцы апрацоўкі зямлі дробнымі прыладамі і буйнымі машынамі.

Кніжку трэба раіць для набыцьця ў хаты-чытальні, клюбы, чырвоныя кутокі.

Таннасьць кніжкі дае магчымасьць мець яе кожнаму. **М. Звычайны.**

---

**„Эхо Тверской Кооперации“—двухтыднёвы каапэрацыйны часопіс № 13—14, ліпень 1929 г.**

Першы артыкул прысьвячаецца пасеўнай кампаніі, дзе, зазначаецца аб тых задачах, якія стаяць перад асеньняй.

Другі артыкул „Четыре с‘езда“ адзначае тыя дасягненьні і недахопы, якія былі да дня зьезду па ўсіх відах каапэрацыі.

„Найбольш слабыя тэмпы каапэрацыйнага будаўніцтва памалочнай каапэрацыі“ зазначаецца ў артыкуле. Яно і зразумела, гаворыцца далей,—гэта каапэрацыя яшчэ маладая.

Зварачае ў часопісе на сябе ўвагу артыкул А. Львова „Животноводство и задачи кооперации“, ў якім аўтар даводзіць, што пры добрым харчаваньні, доглядзе і наша карова ня горш замежных. Высоўваецца пытаньне, які ўдзел павінна прыняць каапэрацыя ў палепшаньні жывёлагадоўлі.

У нумары маюцца старонкі калгаснага будаўніцтва,сацыялістычнага спаборніцтва.

Даволі цікавы аддзел „Сатиры и юмора“, дзе ў жывой і лёгкай форме падаецца матар'ял, які высьмейвае недахопы месц.

Значнае месца часопіс адводзіць аддзелу „На местах“, што сьведчыць аб цеснай сувязі рэдакцыі са сваімі чытачамі.

Трэба вітаць аддзел „Наша Консультация“—ён шмат дае пайшчыку адказамі на хвалюючыя пытаньні.

Увесь матар'ял мае спэцыфічны характар Цвярской губ.

Неілюстраванасьць часопісі робіць яе сухою.

Ні цаны нумару, ні падпіснае платы, у часопісі ня шукайце, бо яе няма, хаця надрукаваць яе можна было-б на вокладцы.

**Т. Рачаісны.**

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

### аб захадах да забясьпечаньня разьвіцьця каапэрацыі інвалідаў

Заслухаўшы даклад Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня і садаклад Дзяржпляну аб становішчы і разьвіцьці каапэрацыі інвалідаў за 1927-1928 год і пра кантрольныя лічбы вытворчага пляну гэтай каапэрацыі на 1928-29 год, Савет Народных Камісараў адзначае, што побач з дасягненьнямі, якія ёсьць у каапэрацыі па лініі некаторага пашырэньня вытворчага каапэраваньня інвалідаў, павялічэньня асноўных фондаў выпрацоўкі прадукцыі на аднаго рабочага, павялічэньня заработнае платы, зьніжэньня сабекошту, зьніжэньня адміністрацыйных выдаткаў, якія рабіліся праз зьмяншэньне абслугоўваючага пэрсаналу, а таксама па лініі павялічэньня каапэраваньня, галоўным чынам, інвалідаў вайны і працы і павялічэньня паянакапленьня, ёсьць наступныя недахопы:

а) недастаткова і з перапынкамі забясьпечваліся дэфіцытным сырцом вытворчыя арцелі інвалідаў;

б) адстае павялічэньне вытворчасьці працы ад росту заработнае платы;

в) няма адпаведных сродкаў на перападрыхтоўку інвалідаў працы з мэтай ўцягненьня іх у вытворчыя арцелі;

г) недастаткова яшчэ ахоплены каапэраваньнем інваліды, асабліва інваліды вёскі;

д) яшчэ вялікая адносная вага не-інвалідаў у агульным складзе, занятых у арцелях;

е) недастаткова мэханізавана вытворчасьць арцеляй і невыстарчальна крэдытаваньне на гэту мэту;

ж) недастатковая нагрузка гандлёвых прадпрыемстваў арцеляй, у выніку чаго ёсьць вялікія накладныя выдаткі;

з) недастаткова выконваецца акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі пастанова СНК БССР ад 13 мая 1925 году „аб дапамозе некаторым катэгорыям асоб, якія знаходзяцца на дзяржаўным забясьпечаньні да ўваходу ў вытворча-працоўныя інвалідныя аб'яднаньні“ (З. З. БССР за 1925 г., № 27, арт. 239);

і) слаба разгортваецца культурна-асьветная праца сярод каапэраваных інвалідаў.

Каб зьнішчыць усе паказаныя недахопы і для аказаньня ўсебаковай дапамогі разьвіцьцю каапэрацыйных аб'яднаньняў інвалідаў, паводле пастановы III-й сэсіі ЦВК VIII скліканьня, Савет Народных Камісараў пастанаўляе:

1. Зьвярнуць увагу адпаведных ведамстваў і органаў БССР на настойлівую патрэбу няўхільнага выкананьня мерапрыемстваў, вызначаных III сэсіяй Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР VIII скліканьня за 23 верасьня 1928 году па дакладу Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня ў частцы каапэрацыі інвалідаў.

2. Запрапанаваць Вышэйшаму Савету народнае гаспадаркі, акруговым і раённым выканаўчым камітэтам пры перадачы прамысловых прадпрыемстваў і прамысловага інвэнтару каапэрацыйным арганізацыям прыраўнаць да апошніх і вытворча-каапэрацыйныя арганізацыі інвалідаў.

3. Для найбольшай мэханізацыі вытворчасьці арцеляй запрапанаваць Народнаму Камісарыяту фінансаў улічваць, пры вылучэньні сродкаў на фінансаваньне каапэрацыйных сыстэм, патрэбу большага задавальненьня крэдытамі каапэрацыі інвалідаў.

4. Запрапанаваць Народнаму камісарыяту гандлю і Вышэйшаму Савету народнае гаспадаркі зьвярнуць належную ўвагу на патрэбу забясьпечаньня каапэрацыі інвалідаў дэфіцытным сырцом

5. Абавязаць сыстэму сельска-гаспадарчага крэдыту—крэдытаваць сельска-гаспадарчыя арцелі інвалідаў грашыма, інвэнтаром, насеньнем, угнаеньнем і сродкамі вытворчасьці, пры чым складаючы свае штогодныя пляны даваць крэдыты сельскагаспадарчым вытворчым прадпрыемствам арцеляў інвалідаў на тых-жа ўмовах, на якіх даюцца яны с.-г. каапэрацыі.

6. Запрапанаваць Народнаму Камісарыяту земляробства даць адпаведныя загады ўсім падпарадкаваным яму органам аб выдзяленьні сельска-гаспадарчым арцелям інвалідаў зямельных вучасткаў, садоў, с.-г. прадпрыемстваў і г. д., нароўні з сельскагаспадарчай каапэрацыяй і аб аказаньні дапамогі ў справе арганізацыі с.-г. арцеляй інвалідаў.

7. Абавязаць акруговыя, раённыя выканаўчыя камітэты і гарадзкія саветы ўстанавіць для каапэрацыйных арцеляй інвалідаў арэндную плату за месца для гандлю на вуліцах, плошчах і базарах (у кіёсках, палатках, ларкох і ўразноску) у гарадох і рабочых пасёлках такую, якая існуе для іншых відаў каапэрацыі.

8. Абавязаць акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты, гарадзкія і местачковыя саветы аддаваць каапэрацыі інвалідаў у першую чаргу, нароўні з іншымі відамі каапэрацыі, у арэнду ларкі, кіёскі, палаткі і месцы для стаянак і пабудовы кіёскаў, а таксама патрэбныя памяшканьні пад вытворчыя прадпрыемствы арцеляй інвалідаў.

9. Запрапанаваць Народнаму Камісарыяту аховы здароўя падаць у СНК свае заўвагі адносна грашовых асыгнаваньняў па бюджэту, патрэбных для правядзеньня, мерапрыемстваў для абслугоўваньня сяброў каапэрацыйных арцеляў інвалідаў усімі відамі мэдыцынскае і санітарнае дапамогі, у тым ліку і пратэзаваньнем агульным і зуба-тэхнічным.

10. Запрапанаваць Белжылсаюзу, Народнаму Камісарыяту ўнутраных спраў Народнаму Камісарыяту асьветы і Белкаапсаюзу прыраўнаць інвалідаў, якія зьяўляюцца сябрамі інвалідных каапэрацыйных аб'яднаньняў, арцеляй у дачыненьні кватэрнай платы, платы за дзяцей ў дзіцячых яслях, садох і пляцоўках, а таксама ў дачыненьні да ўдзелу іх, як пайшчыкаў, у цэнтральным рабочым каапэратыве, да членаў прафэсіянальных саюзаў.

11. Прыняць да ведама плян на 1928—29 г., распрацаваны Беларускім саюзам каапэрацыі інвалідаў і аднačасова лічыць патрэбным:

а) узмацніць мерапрыемствы для стварэньня спэцыяльнага фонду доўгатэрміновага крэдытаваньня і для павялічэньня зваротных сродкаў каапэрацыі праз мабілізацыю ўнутраных сродкаў свае сыстэмы, павялічэньне паявых капіталаў ня менш як на 60 проц., разьвіцьцё ўкладных апэрацый з боку сяброў арцеляй, скарачэньне адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў і забарону разьмеркаваньня чыстых прыбыткаў і капіталаў сярод сяброў арцеляй інвалідаў;

б) даручыць эканамічнай нарадзе разгледзець пытаньне аб пералічэньні ў асноўныя капіталы каапэрацыі інвалідаў 50% доўгатэрміновай пазыкі, якая была атрымана ёю па дзяржаўнаму бюджэту да 1 кастрычніка 1928 г.;

в) запрапанаваць акруговым выканаўчым камітэтам павялічыць водпуск сродкаў па мясцовых бюджэтах на фінансаваньне каапэрацыйных арцеляй інвалідаў;

г) для ўзмацненьня вытворчай дзейнасьці арцеляй запрапанаваць Беларускаму саюзу каапэрацыі інвалідаў павялічыць у 1928—29г. у капітальныя ўклады на 45%, галоўным чынам, для мэханізацыі вытворчасьці і падняцьця вытворчасьці працы ня менш чымся на 15%;

д) павялічыць каапэраваньне інвалідаў на 30%, давёўшы адносную вагу інвалідаў працы да 40%, а агульную колькасьць інвалідаў, занятых у вытворчасьці, да 90%, аднačасова ўжываць захады да скарачэньня не інваліднага складу арцеляй;

е) забясьпечыць павялічэньне каапэраваньня за лік інвалідаў вёскі праз разьвіцьцё працоўных і вытворчых арцеляй, якія працуюць на базе с.-г. сырцу БССР, павесьці працу для арганізацыі з інвалідаў калектыўных гаспадарак і с.-г. арцеляй, асабліва садова-гароднага тыпу;

ж) працягваць курс на скарачэньне колькасьці гандлёвых арцеляй праз злучэньне іх у больш буйныя і на канцэнтрацыю гандлёвай дзейнасьці вытворчых арцеляў;

з) для падрыхтоўкі кадраў вытворчай дзейнасьці арцеляй за лік інвалідаў недапушчаць у будучым зьніжэньня проценту вучнёўства.

12. Лічыць мэтазгоднай арганізацыю на вёсцы інвалідаў-карабейнікаў, для чаго запрапанаваць Народнаму Камісарыяту сацыяльнага забясьпечаньня, Белкаапсаюзу, НКгандлю дагаварыцца аб скарыстаньні інвалідаў у якасьці карабейнікаў для рэалізацыі прамтавараў па спажывецкай сыстэме.

13. Запрапанаваць Беларускаму саюзу каапэрацыі інвалідаў за лік 10% адлічэньняў у фонд палепшаньня быту інвалідаў вылучыць ня менш 50% з гэтага фонду на палепшаньне жыльлёвых умоў інвалідаў—сяброў арцеляй.

14. Даручыць НК сацыяльнага забясьпечаньня і НК працы арганізаваць ўнутры сыстэмы каапэрацыі інвалідаў касы дапамогі для забясьпечаньня інвалідаў у выпадках часовага выхаду па хваробе з вытворчасьці. Сродкі для гэтай мэты ўносяцца арцелямі ў разьмеры, установленым Народным Камісарыятам сацыяльнага забясьпечаньня і Беларускім аб'яднаньнем каапэрацыі інвалідаў.

15. Напомніць акруговым і раённым выканаўчым камітэтам аб патрэбе поўнага ажыцьцяўленьня пастановы СНК ад 13 мая 1925 г. і праз два месяцы заслухаць спэцыяльны даклад НК сацыяльнага забясьпечаньня ў СНК аб выкананьні гэтае пастановы.

16. Запрапанаваць Народнаму Камісарыяту працы і Галоўсацстраху вылучыць спэцыяльныя сродкі на перападрыхтоўку і кваліфікацыю інвалідаў працы для палягчэньня магчымасьці ўступленьня іх у вытворчыя арцелі каапэрацыі інвалідаў.

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў БССР *М. КАРКЛІН.*

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР *М. КАЛЕВІЧ.*

12 чэрвеня 1929 г. г. Менск.

# Палажэньне аб стала дзейнічаючых курсах пры Белкаапсаюзе

1. Дзеля падрыхтоўкі кадраў каапэрацыйных працаўнікоў з рабочых, батракоў, беднякоў і лепшай часткі серадняцтва і перападрыхтоўкі ўжо працуючых у каапэрацыі сумленных, адданых працы працаўнікоў Белкаапсаюзам, па узгадненьні з Наркамасьветы, арганізоўваюцца бесьперарыўныя каапэрацыйныя курсы, якія будуць рыхтаваць членаў праўленьня спажывецкіх таварыстваў, куставых інструктароў.

2. Працягласьць заняткаў на курсах—5 месяцаў, гэта значыць, у год адбываецца два выпускі курсаў, Прыём будзе адбывацца з 15-VIII і пачатак заняткаў—з 1-IX—29 г. і другія—з 1-II—30 г. Праграма на курсах наступная:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | па белмове | 80 | гадзін |
| 2. | „ арытмэтыцы | 100 | „ |
| 3. | „ арганізацыі, практыцы, гісторыі і тэорыі | 120 | „ |
| 4. | „ рахункаводзтву | 80 | „ |
| 5. | „ практычнаму рахункаводзтву | 40 | „ |
| 6. | „ тавараразнаўству | 100 | „ |
| 7. | „ эканомгеаграфіі | 20 | „ |
| 8. | „ грамадазнаўству | 70 | „ |
| 9. | статут спажывецкіх таварыстваў | 10 | „ |
| 10. | па каап. грамадзкасьці і каап. асьветпрацы | 20 | „ |
| | Разам | 640 | гадзін. |

3. Склад слухачоў курсаў камплектуецца райсаюзамі па разьвёрстках Белкаапсаюзу як з стала працуючых каапэрацыйных працаўнікоў, так і з рабочай, батрацка-бядняцкай часткі каапэрацыйнага актыву.

4. Выдаткі на ўтрыманьне курсаў разьмяркоўваюцца паміж БКС і райсаюзам наступным парадкам: за кошт Белкаапсаюзу праводзіцца харчаваньне курсантаў, інтэрнат, аплата выкладчыкаў, налічэньне на зарплату выкладчыку, за кошт Райсаюзу: стыпэндыя (для нежанатых—10 руб., а для жанатых—30 руб.) і аплата праезду курсантаў у Менск і назад на месца працы.

5. Пры паступленьні на курсы курсанты павінны мець веды ня ніжэй 4-х годкі.

Увага. Адхіленьні магчыма дапусьціць для рабочых, батракоў і бядняцкай часткі сялянства, ад якіх патрабуецца, каб яны ўмелі добра чытаць, лічыць і пісаць.

6. Для лепшага сацыяльнага адбору і ў мэтах аднароднага падбору складу слухачоў па ведах пры арганізацыйным кіраўніцтве ствараецца камісія, якая раней разглядае ўсе анкеты кандыдатаў на курсы, і толькі пасьля зацьверджаньня кандыдатур камісіяй і паведамленьня Саюзу аб тым, што таварыш прыняты, камандыроўка лічыцца зацьверджанай.

7. Вучэбна-адміністра ыйнае кіраўніцтва курсамі праводзіцца праз курсавы савет, які складаецца з загадчыка курсамі, прадстаўніка ад выкладчыкаў і прадстаўніка ад слухачоў

8. Кандыдатура загадчыка курсамі ўзгадняецца з Наркамасьветы і зацьвярджаецца праўленьнем БКС.

9. У дапамогу загадчыку курсамі курсанты абіраюць з свайго складу старасту.

10. Па сканчэньні заняткаў робіцца заключная праверачная гутарка па пляну, зацьверджанаму праўленьнем БКС, пасьля чага слухачы атрымліваюць пасьведчаньні аб прахаджэньні курсаў.

---

*Рэдактар—РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ*

*Выдавец—Каапцэнтры БССР, Белсельбанк і Ўсекабанк*